# Андрэй Клімаў і Лукашэнка будуць сядзець «разам»


# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №12 (169) 20 САКАВІКА 2000 г.


## Новы Паўлаў

Менску Лукашэнка выдзяліў новага „мэра» — Міхала Паўлава, які раней кіраваў Баранавіцкім гарвыканкамам. За пашпартам — беларус, родам з Магілёўшчыны. Кандыдат тэхнічных навук, 1952 году нараджэньня. Нічым не вядомы, біяграфія савецкая. Быў некалі адзін Паўлаў у гісторыі, што беларушчыну еў поедам — Савелій, кіраўнік ідэалягічнага аддзелу ЦК КПБ-КПСС.

## Газэта мястэчка Германавічы

Упершыню на Віцебшчыне газэту пачаў выдаваць негарадзкі жыхар. Дакладней, жыхарка мястэчка Германавічы пад Шаркоўшчынай Ада Райчонак, кіраўніца мясцовага асьветніцкага цэнтру імя Драздовіча. Газэта называецца «Бацькаўшчына», выходзіцьме раз на месяц. Гэтая жанчына стварыла ўжо, апроч цэнтру й газэты, музэй Драздовіча ў суседнім мястэчку Лужкі — мы пра гэта летась пісалі. Яна цяпер марыць пра заснаваньне тутсама музэю стваральніка сучаснай габрэйскай мовы — Элі Пэрэльмана (Бэн-Ягуды).

## Прыватныя дактары

За апошнія чатыры гады Міністэрства аховы здароўя выдала больш за 2 тысячы ліцэнзіяў на прыватную мэдычную практыку. Калі раней ліцэнзіі выдаваліся збольшага дантыстам, дык цяпер — амаль усім спэцыялістам, апроч вэнэролягаў і анколягаў. Прыватны мэдычны сэктар бурна расьце, нягледзячы на шалёныя падаткі. Гэтак, у Менску адкрылі першую прыватную касмэталягічную хірургічную клініку, а многія невялікія фірмы рыхтуюць адкрыцьцё прыватных стацыянараў.

## Конкурс школак

Конкурс на лепшыя вясковыя школкі, які праводзіла ТБМ, закончыўся пазаўчора ўручэньнем прызоў. 19 школам прысудзілі трэцяе месца, 25 — другое, а 6 — першае. Перамаглі школа-садок у Мётчы пад Барысавам, школа ў Залужжы, што пад Стоўпцамі, у Германавічах, што пад Шаркоўшчынай, Мачульская базавая з-пад Століна, Дабрынская з-пад Ельску і Бердаўская з-пад Ліды — гэтыя школы самыя патрыятычныя. Ад фундатараў — прафкаму заводу «Атлянт», фірмы «Кампутары і пэрыфэрыя», Белбізнэсбанку і прафкаму НВА «Транстэхсэрвіс» — школам далі фотаапараты, відэаплэеры, музычныя цэнтры.

Конкурс быў арганізаваны, каб запярэчыць тэндэнцыі русіфікацыі вясковых школаў. Паводле зьвестак Алеся Лозкі, які ўзначальваў журы конкурсу, летась на расейскую мову перавялі 27 школаў у вёсцы, пазалетась — 32, у 1997 годзе — 55 вясковых (з 59 усіх пераведзеных на расейскую у краіне за год), у 1995 — 91 (з 108). У гарадах амаль усё беларускае рэжым пазачыняў, цяпер надта ўзяўся за сёлы. Праўда, дзеля асаблівасьцяў дэмаграфічнай крывой у розных рэгіёнах краіны, усяго ў беларускія першыя клясы летась пайшло нават больш дзяцей — 29,3% дзяцей проці 28,7% у 1997 годзе. У Менску, праўда, усё змрачней — 4,3% проці 7,3% пазалетась.

Галоўная ж праблема цяпер у тым, што і ў беларускіх школах пануе расейская мова і ў таварышаваньні, і ў навучаньні.

**Барыс Тумар**

# 25 Сакавіка — Дзень Волі



Фота Анатоля Клешчука

## АД КОЛАСА ДА КУПАЛЫ ПРАЗЬ ПЕРАМОГУ

Менскія ўлады спрабуюць адмовіць нацыянальнаму аргкамітэту Дня Волі—2000 зладзіць на 25 сакавіка сьвяточны паход ад пляцу Якуба Коласа да парку імя Янкі Купалы, зьдзекліва накіроўваючы беларусаў сьвяткаваць Дзень Незалежнасьці на «выган» — ля аўтобуснай станцыі Кульман. Няма сумневу, што гэткая пазыцыя кіраўніцтва адкрыта правакацыйная. Вядома, што людзі ўсё адно прыйдуць 25 сакавіка а 12-й гадзіне на пляц Якуба Коласа, каб разам адзначыць найвялікшую дату ў гісторыі сваё Бацькаўшчыны — дзень аднаўленьня дзяржаўнасьці на беларускіх землях. Улада, відавочна, незадаволеная масавасьцю народнага ўдзелу ў Маршы Свабоды і хоча сарваць сьвяткаваньне Дня Волі.

Вось як камэнтуе сытуацыю адзін з заяўнікаў сёлетняга Дня Волі (а ўсяго пад заяўкай падпісаліся 78 чалавек), лідэр Народнага фронту Вінцук Вячорка: «Гэтая адмова паказвае, што: па-першае, рэжым прамаскоўскі й баіцца шматлюднага выяўленьня незалежніцкіх памкненьняў, па-другое, Лукашэнка спалохаўся да гістэрыкі трыюмфу Маршу Свабоды–II, ён зразумеў, што Дзень Волі будзе яшчэ больш шматлюдным». Віктар Івашкевіч, які кіраваў дружынай, што забясьпечыла ідэальны парадак на Маршы Свабоды, жартуе: «Мы абяцаем ня біць міліцыі. А калі сур'ёзна, дык ніякай крыві мы не дапусьцім. Наш адказ — выйсьці й не паддацца на правакацыі».

Ва ўмовах, калі на галоўнае беларускае сьвята менскія ўлады забараняюць урачысты паход і мітынг у плянаваным месцы, стаіць пытаньне выбару для кожнага чалавека — ці ісьці ў гэты дзень а 12-й гадзіне на пляц Якуба Коласа, дзе мае адбыцца збор удзельнікаў, ці застацца дома. Які выбар зрабілі вядомыя ўва ўсёй краіне людзі, палітыкі й культурнікі, што для кожнага зь іх значыць дата 25 сакавіка? З гэткім пытаньнем зьвярнуліся мы да іх.

**Уладзімер Арлоў, пісьменьнік:** Лічу, што якраз 25 сакавіка 1918 году ў беларускай гісторыі і пачалося ХХ стагодзьдзе. Гэты дзень — нашае галоўнае дзяржаўнае сьвята, і я адзначаю яго ў любое надвор'е.

**Станіслаў Багданкевіч, старшыня Аб'яднанае Грамадзянскае Партыі:** Я жорсткі прыхільнік незалежнасьці й сувэрэнітэту Беларусі, і таму само сабой зразумела, што я адзначаю дзень 25 сакавіка як дзень станаўленьня нашае Рэспублікі й пачатку дзяржаўнага самавызначэньня беларускае нацыі. Я буду на плошчы Якуба Коласа ў гэты дзень, калі толькі буду здаровы.

**Рыгор Барадулін, народны паэт Беларусі:** 25 сакавіка — сьвяты для душы маёй дзень. Менавіта гэты дзень дае магчымасьць адчуць сябе вольным беларусам, дае спадзеў на вечнасьць Беларусі як незалежнае дзяржавы. Невыпадкова праз колькі вякоў пасьля Вялікага Княства Літоўскага дзень абвяшчэньня памаладзелае дзяржавы — Беларускае Народнае Рэспублікі — супаў з днём Сьвятога Зьвеставаньня. Гэта знак нябёсаў. Калі Бог дасьць здароўе, буду 25 сакавіка разам з усімі.

Апошнім часам мне цяжка хадзіць і быць на людзях. Дзе ёсьць магчымасьць, пасылаю свае слова хадзіць за мяне.

**Лявон Баршчэўскі, перакладчык:** Гэта дата адкрыцьця. Нам доўга не ставала ў нашай гісторыі гэткае даты, досыць позна мы пра яе даведаліся. Гэты дзень упершыню даў нам гэтак патрэбнае самаадчуваньне дзяржаўнае нацыі пад сваім назовам. Тыя людзі, якія абвяшчалі БНР, ведалі, што іх згадаюць добрым словам. Яны ня ўсе верылі, што пераможуць, але ведалі, што робяць гістарычны крок. І сьвяткаваньне Дня Волі нельга забараніць — гэта сьвятое. Сытуацыя з адмовай гарадзкіх уладаў нагадвае вядомых літаратурных герояў, якія хацелі закрыць Амэрыку.

**Валерка Булгакаў, галоўны рэдактар часопіса «Arche»:** Падыду. Во быў 15 сакавіка на Маршы Свабоды, і мне спадабалася.

**Артур Вольскі, дзіцячы пісьменьнік:** Я перакананы прыхільнік незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны, таму Дзень Волі для мяне найвялікшае сьвята. Калі Бог дасьць і здароўе дазволіць, я абавязкова пайду з тымі, хто сапраўды дбае пра Беларусь, яе незалежнасьць, яе волю, бо самое слова воля адпавядае маім памкненьням.

**Вінцук Вячорка, старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»:** Яшчэ аніводнага разу мы не паступаліся сваёй найвялікшай нацыянальнай вартасьцю. 25 сакавіка — гэта канцэнтрацыя ўсіх беларускіх вартасьцяў. І мы будзем сьвяткаваць 25 сакавіка, як пастанавілі.

*Працяг на старонцы 6.*

*Дэпутата і прадпрымальніка Андрэя Клімава засудзілі на шэсьць гадоў турмы*



Такая была воля Аляксандра Лукашэнкі, які яшчэ ў першы дзень пасьля арышту дэпутата два гады таму заявіў, што «Клімаў будзе сядзець доўга». У мінулую пятніцу судовы працэс, які цягнуўся сем месяцаў, закончыўся прысудам. Менскі суд Ленінскага раёну адправіў Клімава за краты яшчэ на чатыры гады. Фармальная нагода — прысабечваньне сродкаў пры будаўніцтве элітнага дому на вуліцы Лодачнай, дзе цяпер жывуць вэртыкальшчыкі і дыпляматы. Але мала хто сумняваецца, што гэты працэс — палітычны. «Судзіць мяне ня суд, а Лукашэнка», — сказаў Клімаў у апошнім слове. Першы прэзыдэнт на дух не пераносіць сваіх колішніх калег-дэпутатаў, якія ня згодныя зь ягонай палітыкай ператварэньня краіны ў адсталы калгас.

«Яны прыбіраюць са сваёй дарогі ня толькі палітычных дзеячоў, але нават звычайных людзей, што ня згодныя з рэжымам, — заявіў Клімаў на судзе ў пятніцу. — Палітыкаў забіваюць, садзяць у турмы, яны зьнікаюць невядома куды. Звычайным людзям зьніжаюць заробкі, звальняюць з працы. Але, тым ня менш, у палітычным пляне беларусы на галаву вышэйшыя за тых самых расейцаў. Паглядзіце, што там робіцца — усе цалуюць ногі Пуціну, нават ня ведаючы, хто ён такі, хоць спадзявацца на нешта добрае, калі бачыш, што ён зрабіў з чачэнскім народам, наўрад ці можна. А ў нас яшчэ ёсьць людзі, якія не баяцца выйсьці на вуліцы і, падкрэсьліваю, цывілізаваным мэтадам, а не са зброяй у руках, бо мы ведаем, да чаго гэта прыводзіць, паказваючы ўладзе, што будуць яе кантраляваць, прымусяць клапаціцца пра простых людзей, а не, як сказаў Лукашэнка, пра дабрабыт ценявых бізнэсмэнаў».

Выглядае, што ў гэтым прысудзе вельмі шмат ня толькі палітычных матываў, але і асабістае крыўды Лукашэнкі. Значыць, той будзе сядзець датуль, дакуль будзе сядзець на сваёй пасадзе гэты. Ці ж доўга? «Убачымся раней!» — крыкнуў Клімаў сябрам, пакідаючы залю суду.

**Алесь Кебік**

## Менш ямо

НДІ працы правёў апытаньне пра тое, як людзі харчуюцца. 65% апытаных паскардзіліся, што сталі харчавацца горш апошнім часам, і толькі 2% — лепш, піша БелаПАН. 96% усіх апытаных быццам бы не адкладваюць грошай на будучыню зусім, жывуць толькі абы дзень да вечара. Зьвесткі настолькі сумныя, што аж ня верыцца ў слушнасьць апытаньня.

**Б.Т.**

лісты ў рэдакцыю

## Сьвятло і цямрэча

*Зьвяртаюся да Вас з такой нагоды. Дзесьці з год таму пісаў Вам, як рупіцца пра народ сёньняшняя ўлада. У нашай чарнобыльскай вёсцы гэта моцна відно. Дарогу дабіваюць, вадаправод доканалі, сьвятло па вуліцах паабразалі, ну, і ўсяму рады даюць.*

*Да мяне сёньня прыстугнелі з энэрганагляду, бо я на сваёй вуліцы падключыў самавольна ліхтары, праз выключальнік. Склалі АКТ. Правільна, плаціць трэба, а хто будзе — я. Калгас ня хоча за асьвятленьне вуліц плаціць, і савет таксама. А ў савеце старшыня — «абраньнік» пажыцьцёвы і калгасны старшыня — «абраньнік» пажыцьцёвы мясцовага і раённага саветаў, паказалі на мяне, што я краду электрычнасьць, каб асьвятліць вуліцу, на якой толькі гразь, вада ды ямы па самы зад іхны тоўсты. Стаяла на КІП фотарэле, дык яго ўкралі ды паставілі на КІП, дзе жыве старшыня. Вось так рупіцца пра нас вэртыкаль. Куды ні кінь, дык яно ўсюды так. Затое злавілі злачынцу, мяне.*

*Ну, а злодзей гэты я: электраманцёр сувязі Філіповіч Пятро Піліпавіч, жыхар Забалоцьця, што ў Чамярысах, гэта там, дзе толькі можна праехаць на ўсюдыходзе, дый тое не заўжды.*

*З павагай, ваш пастаянны чытач і падпісчык*

**Пятро Філіповіч, в.Чамярысы пад Брагінам**

## Суродзічы беларусы!

*Ад імя Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады вітаю вас з 82-мі **ўгодкамі 25 Сакавіка — Днём незалежнасьці Беларусі.***

*82 гады таму назад 25 сакавіка ў Менску Рада Беларускай Народнай Рэспублікі як законны суверэнны орган беларускага народу, сваёй **Трэцяй Устаўной Граматай** пад назвай **Акту 25 Сакавіка** перад усім сьветам абвясьціла дзяржаўную незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі ды парвала ўсякія дзяржаўныя сувязі з Расеяй, часткай якой дагэтуль была Беларусь. Акт 25 Сакавіка мае для нас калясальнае значэньне:*

*1. Актам 25 Сакавіка беларускі народ заявіў усяму сьвету сваю волю быць незалежным і гэтым запачаткаваў у беларускім адраджэнцкім руху новую эпоху змаганьня за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі — незалежніцкую эпоху.*

*2. Акт 25 Сакавіка паставіў на парадку дня міжнароднае арэны нявырашанае пытаньне незалежнасьці Беларусі.*

*3. З Актам 25 Сакавіка лічыліся й бальшавікі, калі ў 1919 годзе мусілі стварыць, хай сабе й фікцыйную, БССР. Каб не было Акту 25 Сакавіка, не было б і Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, а была б толькі «Северо-западная» вобласьць РСФСР.*

*4. Каб не было Акту 25 Сакавіка, не было б прадстаўніцтва Беларусі ў Задзіночаных Нацыях.*

*5. Каб не было Акту 25 Сакавіка, не было б і Рэспублікі Беларусь.*

*Таму мы — дзе б мы ні знаходзіліся — у Эўропе, ЗША, Канадзе ці Аўстраліі — з году ў год сьвята і ўрачыста адзначаем нашае найвялікшае нацыянальнае сьвята*

***25 САКАВІКА — ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ.***

*З нагоды сьвята жадаем вам добрага здароўя й спору ў працы, накіраванай для дабра нашай беларускай вызвольнай справы.*

*ЖЫВЕ БЕЛАРУСКІ НАРОД У ЗМАГАНЬНІ! ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!*

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч, Бэры, Канада**

## Пачатак сямейнай гісторыі

*Якуб Яцкевіч нарадзіўся ў «сялянскай» сям'і (яго продкі ня здолелі ў свой час даказаць паперамі маскалям сваё шляхецкае паходжаньне) ў 1899 годзе ў вёсцы Семакава, што пад Мірам. Дзякуючы намаганьням бабулькі Юзэфы, атрымаў грунтоўную хатнюю адукацыю. Бацькі накіравалі хлопца ў народную вучэльню...*

*У 1917 годзе Якуб у царскім войску. Як пачаліся хваляваньні, ён вярнуўся дамоў. Адылі ўжо не застаў бацькі, бабулькі. Ужо ў наступным годзе, разьвітаўшыся з роднымі, ён зьехаў у Петраград, адкуль вярнуўся ў 22-м кавалём. Гэта было ўжо за польскім часам. Неўзабаве ён ужо валодае ўласнаю кузьняю, мае добры кавалак лесу ў навакольлі вёскі.*

*Зь вясковай прыгажуняй Надзеяй быў знаёмы здаўна — сем'і вельмі сысьбраваліся... Праз тры гады адбыўся шлюб — многія з старых вяскоўцаў і сёньня ўзгадваюць «Якубава вясельле». Праз год зьявілася першая дачка — Аліцыя. Час бег, стваруўся дабрабыт. Ніхто ня мог прадбачыць далейшага. Брат Якуба, Франак, у 38-м угаворваў яго зьехаць у Канаду. Якуб застаўся. Што яму рабіць у далёкай краіне, калі тут ён мае ўсё?*

*Праз год напалі на Польшчу немцы. У вёсцы ўсе ведалі, што Сталін убаку не застанецца. І Сталін прыйшоў. Кузьню й сьвіран спалілі адразу. Што-колечы з хатняе жывёлы й маёмасьці пазабіралі. Забралі Якубава дзядзьку... Сам Якуб стаў «ворагам народу». І ён ня вытрымаў душэўных хваляваньняў. Сям'я засталася без гаспадара.*

*Сям'я з чатырох чалавек: кабета гадоў 35, тры дзяўчынкі й хлопчык Зьмітрок 9 гадоў. Вось ужо тыдзень яны сядзяць і чакаюць вывазу ў Сыбір... Хатнія рэчы колішняе заможнае сям'і: гадзіньнік, крэслы, некалькі куфраў — пакладзеныя на вазы...*

*Вазы так і не зварухнуліся. Праз два дні прыйшлі немцы.*

*Далей для Якубавай сям'і ўсё было «тыпова», «па-савецку»... Хлопчык Зьмітрок — гэта мой дзед.*

**Яцак Русецкі, Менск**

жарт




*Малюнак Віктара Фурмана, Менск*

# ПА ЗАКОНАХ ПОДЛАСЬЦІ

Судзьдзя Марыя Фёдарава апраўдала выдавецтва «Праваслаўная ініцыятыва», што выпусьціла з друку антысэміцкую кніжку «Вайна па законах подласьці». Матэрыялы, якія ўтрымлівае выданьне, яна палічыла зьвесткамі, «што носяць навуковы характар і мусяць ацэньвацца Акадэміяй Навук». Прадстаўнікі жыдоўскай грамады з гэтым не пагадзіліся. «Зь якога гэта часу адкрыты заклік «Бі жыдоў, ратуй Расею» займеў навуковы характар?» — проста ў залі суду абураўся Міхаіл Бурштэйн, старшыня Саюзу габрэйскіх вэтэранаў і інвалідаў вайны, аднаго са спазышчыкаў. «Мы спадзяемся, што гэтае рашэньне было навязанае зьверху, а не прынятае паводле сумленьня судзьдзі», — зазначыў сп.Бурштэйн. «Дырэктар «Праваслаўнай ініцыятывы» Чартовіч сказаў мне, што і мітрапаліт Філарэт паганіў выдавецтва за кнігу. Чаму ж тады не забараніў яе выдаваць?» — зьдзіўляецца сп.Бурштэйн. Жыдоўскія арганізацыі маюць намер абскардзіць рашэньне судзьдзі.

На судзе прысутнічалі пяцёра фашыстаў з РНЕ, у формах са свастыкай на рукавах — стаялі ў калідоры, бо ў залі не ставала месца. Міліцыянты безь ніякага прапусьцілі іх. Вэтэран вайны, былая лётчыца Ганна Пятрова падышла да іх і стала ганіць, што яны носяць гэтую форму са стылізаванай свастыкай. «Гэта наша справа», — адказалі яны ёй. «Дык што, вы мо й забіваць не будзеце, як фашысты?» — спыталася, жахнуўшыся, жанчына. «Сёньня — не, а неўзабаве — так», — адказалі ёй.

Спазышчыкі мяркуюць, што, значыць, адказчыкі тым ці іншым чынам зьвязаныя з РНЕ, раз нехта гэтых баевікоў паклікаў.

**Барыс Тумар**

# ХРЭСТ НА СВАБОДУ

15сакавіка, у Дзень Канстытуцыі, у Пінску адбыўся суд па скарзе заснавальнікаў незалежнай газэты «Правінцыя» да гарвыканкаму, які адмовіў ім у «згодзе на разьмяшчэньне» рэдакцыі на тэрыторыі Пінску.

Яшчэ летась журналісты Хведар Сыцін і Пятро Цішук (былы намесьнік старшыні дэмакратычнага скліканьня гарсавету) разам са старшынём Пінскага аддзяленьня Беларускага Гельсынскага Камітэту Віктарам Ярашуком двойчы падавалі ў выканкам заяву з просьбай даць дазвол на разьмяшчэньне ў горадзе новага пэрыядычнага выданьня — газэты «Правінцыя». Абодва разы заснавальнікі атрымалі адмову, прычым патлумачылі яе чыноўнікі тым, што ў «Пінску цяпер выдаецца 7 пэрыядычных выданьняў агульным накладам больш за 48 тысячаў асобнікаў, і наяўнасьць такой колькасьці пэрыядычных выданьняў рознай накіраванасьці выканкам лічыць дастатковай дзеля інфармаваньня жыхароў гораду». На вэртыкаль не паўплываў нават Ганс-Георг Вік, які зацікавіўся канфліктам і накіраваў у Пінскі гарвыканкам ліст, у якім заклікаў мясцовыя ўлады не парушаць Канстытуцыі.

Тады заснавальнікі зьвярнуліся ў суд. На судзе заснавальнікі адзначалі, што Пінскі гарвыканкам ня можа вырашаць, колькі газэт патрэбна грамадзянам, і ня можа выконваць функцыі органу, які дазваляе ці не дазваляе існаваць сродкам масавай інфармацыі. А ўсе патрабаваньні выканкаму падаць дадатковыя паперы й дакеды цалкам незаконныя.

Суд так не палічыў. Судзьдзя Някрасаў пастанавіў пакінуць скаргу без разгляду з-за юрыдычных тонкасьцяў — заснавальнікі абскардзілі ў абласным выканкаме ліст службовай асобы, старшыні гарвыканкаму, а мусілі скардзіцца не на перапіску, а на само рашэньне выканкаму. Заснавальнікам параілі ізноў скардзіцца, але цяпер ужо правільна. Што яны і зьбіраюцца зрабіць. На відавочную абсурднасьць справы суд увагі не зьвярнуў.

Між тым, на адной з прэсавых канфэрэнцыяў старшыня гарвыканкаму Васіль Шуст сярод іншага сказаў, што газэту зарэгістраваць ня дасьць, бо «зразумела, чые замовы яна будзе выконваць».

**Аляксей Дзікавіцкі, Пінск**

ПАЗЫТЫВЫ

## Да якой зоны?

У мінулую нядзелю тэлефануе мне начальнік і лаецца. Мауляў, чаго генэральную эканамічную падзею тыдня не асьвятляеш: указ №117, які супраць пасярэднікаў. Во, думаю, знайшоў сабе падзею. Указ гэны дзейнічаць пачне толькі з 1 ліпеня, і халера яго ведае, што яшчэ да той пары здарыцца. Да таго ж пераважная большасьць пасярэднікаў «Нашай Нівы» не чытае.

Карацей кажучы, ніякая гэта не эканамічная падзея, а наадварот, вельмі палітычная: фокус-марокус для малаадукаваных масаў выбарцаў. Няхай сабе бабулькі зь дзядулькамі і розныя працоўныя, едучы штодня прыгараднымі цягнікамі, думаюць, што іхныя грошы адабралі крывасмокі-пасярэднікі, а не БЧ (Беларуская чыгунка), што з 10 сакавіка беспасярэдне і ўдвая падняла кошт праезду адной зоны.

Во дзе процьма эканомікі. Аплата транспарту складае блізка чвэрці выдаткаў сямейнага бюджэту сярэдняга беларуса. Гэта пры тым, што транспартныя паслугі субсыдуецца і датуецца. Але славутым айчынным спажыўцам чаркі і скваркі гэтага мала: праезд на прыгарадных пасажырскіх маршрутах не аплочвае да 40% пасажыраў, без уліку ільготнікаў. Ускосная эканомія грамадзянаў праз усе згаданыя спосабы складае да 10% рэальных выдаткаў.

Прымусіўшы пасажыраў плаціць усё, што трэба, ураду прыйдзецца паклапаціцца пра грашовую дапамогу палове сем'яў шляхам, напрыклад, простага бюджэтнага датаваньня. А хто тыя грошы бюджэту дасьць?

Адна з найстаражытнейшых у сьвеце чыгунак? Не дачакаецеся! Бо доля пакрыцьця выдаткаў коштам уласных сродкаў мала дзе на ёй сягае за 1/3. А калі выдаткі не пакрываюцца, дык няма за што купляць г.зв. рухомы склад, проста кажучы — цягнікі. **Зношанасьць асноўных фондаў на чыгунцы** складае **блізка 60%, а на асобных шэрагах лякаматываў дасягае і 100%.** А зношанасьць абсталяваньня. раскрадзенага і занядбанага ў выніку славутага ў 70-я гады «беларускага экспэрымэнту на чыгунцы», калі скарацілі каля 12 тысячаў каляевых абходчыкаў і гэткага кшталту пэрсанал іншых прафэсіяў, падвойваецца з-за агульнай недагледжанасьці нашай чыгункі.

Адказныя за перагляд тарыфаў дзяржаўныя мужы не пасьпяваюць іх перагледзець дзеля імклівай інфляцыі.

Тым часам набліжаецца Дзень Волі і масавая пасадка бульбы. Паўмільёна гарадзкіх сем'яў, што маюць лецішчы і гароды, рыхтуюцца. Паўтара мільёна сем'яў, што маюць родзічаў на вёсцы, таксама рыхтуюцца. Чухаюць у патыліцах грамадзяне, бо для 40% зь іх незаўважная рыса галечы, за якой яны апынуліся з-за сваёй электаральнай актыўнасьці, з-за кошту квіткоў пачынае набываць выгляд рысы аселасьці.

Тым ня менш пасадка бульбы і гародніны адбудзецца пры любым надвор'і. Сэлектарнай нарады ніхто чакаць ня будзе. Кожны ўвапнецца ў электрычку і паедзе да свайго лапіка зямлі, дзесьці ў пятай зоне. Будзе ехаць і думаць пра тое, чаму хлеб робіцца цяжэйшы.

А калі многа людзей думаюць разам і побач, іх Бог заўважае.

**Міхал Залескі**

## Свабода і крадзёж

У Баранавічах, пакуль мясцовая міліцыя рыхтавалася да Маршу Свабоды, ля самага гарвыканкаму адбыўся крадзёж. З помніка 9 загінулым воінам-інтэрнацыяналістам скралі скульптуру. Помнік уяўляе сабой двухмэтровую каменную глыбу, пасечаную кулявымі адтулінамі, наверсе якой знаходзілася невялікая скульптурка савецкага салдата, што падаў, падстрэлены душманскай куляй. Выява інтэрнацыяналіста была бронзавай і важыла каля 15 кг.

**Руслан Равяка, Баранавічы**

## Віцебскі марш

Акцыі ў падтрымку «Маршу Свабоды» прайшлі і ў іншых гарадох Беларусі. У Віцебску шэсьце прайшло ад Ратушнай плошчы да плошчы Леніна. У ім узялі ўдзел каля трохсот чалавек з розных раёнаў вобласьці. На плошчы Леніна адбыўся мітынг, на якім выступілі прадстаўнікі дэмакратычных колаў. Напярэдадні «Маршу», 12 сакавіка, пры раздачы запрашэньняў на яго, ля супэрмаркету «Амега» затрымалі маладафронтаўца Юрася Землякова. Нягледзячы на тлумачэньні, што «Марш» дазволены гарвыканкамам, міліцыянты Першамайскага РАУС завялі хлопца ў пастарунак і склалі пратакол. Бацькі хлопца накіравалі ў абласную пракуратуру скаргу пра незаконнае затрыманьне. Юрася ўжо затрымлівалі ў сярэдзіне лютага за напісаньне патрыятычных графіці на сьценах алейнага заводу.

**Б.Т.**

## Заганяюць у калгас

Пара жыхароў вёскі Белькаўшчына, што на Друсеншчыне, вымушаныя зноўку ўступіць у тутэйшы калгас «Усход» пад пагрозай высяленьня з хатаў. Шмат гадоў таму, быўшы калгасьнікамі, яны атрымалі ад гаспадаркі жытло, а тады павыходзілі з калгасу. Цяпер калгас падаў у суд на «аднаасобнікаў» з патрабаваньнем павысяляць іх з занятых службовых памяшканьняў. Што атрыманае жытло — службовае, вяскоўцы даведаліся толькі цяпер, — піша ў сваім бюлетэні Беларуская Асацыяцыя Рэсурсавых Цэнтраў. Старшыня калгасу кажа адназначна: «Ці вяртайцеся працаваць у калгас, ці вызваляйце кватэры».

Сытуацыя, на жаль, знаёмая ці ня ў кожным беларускім калгасе, бо гэта ж і ёсьць сучасны прыгон — жыльлём трымаць церазь сілу.

**Б.Т.**

## Народны чалавек

16 сакавіка Лукашэнка наведаў Мікашэвічы, дзе здабываюць граніт. Здабыўцы каменя, аднак, стаяць на мяжы банкрутства.

Мікашэвічы — гарадзкі пасёлак у Лунінецкім раёне з насельніцтвам каля 18 тысячаў чалавек. Тут месьцiцца аб'яднаньне «Граніт», на якім з граніту вырабляюць друз. Гранітнае радовішча гэтае — унікальнае. Месцаў, дзе граніт падступае так блізка да паверхні, у Беларусі два — ёсьць яшчэ каля вёскі Дайнова. Мікашэвіцкі граніт добры тым, што ўзровень радыяактыўнасьці ў ім вельмі нізкі, у адрозьненьне ад гранітаў на большасьці радовішчаў за мяжой, і пліта вельмі гладкая. На аб'яднаньні «Граніт» працуе каля дзьвюх тысячаў чалавек. Яшчэ 2—3 гады таму сярэдні заробак тут быў каля 150 даляраў, цяпер — 30–40. Прадпрыемства працуе напаўсілы. Чарговы заробак ня выплацілі нават да прыезду Лукашэнкі.

А той прыляцеў разьбірацца з праблемамі прадпрыемства ў чацьвер. Прыкладна паўтысячны натоўп сустракаў яго на стадыёне, куды прызямліўся гелікоптэр. Бацюшка зь мястэчковай праваслаўнай царквы разам з хорам прасьпяваў Лукашэнку «многія лета». Пасьля кароткае размовы з натоўпам, пад час якой людзі скардзіліся на цяжкае жыцьцё і дрэнных начальнікаў, Рыгаравіч паехаў на «Граніт». Усе дарогі да прадпрыемства былі перакрытыя міліцыянтамі. Як мы пазьней даведаліся ад супрацоўнікаў, дзеля госьця ў заводзкім кар'еры, дзе здабываюць граніт, зрабілі паказальны выбух.

Пару гадоў таму такія выбухі рабілі штодня, цяпер — раз на тыдзень. Пакуль Лукашэнка разьбіраўся з «Гранітам», каля ўнівэрсаму ў цэнтры Мікашэвічаў сабраліся каля трахсот чалавек, каб паглядзець на правадыра. Шмат хто з натоўпу прыехаў здалёк, каб папрасіць у Лукашэнкі дапамогі. Некалькі старых кабет трымалі ў руках каляровыя лісты ў форме трохкутніка, дасланыя ім калісьці на Дзень Перамогі Лукашэнкам, і казалі, што раз ён ім пісаў, дык і выслухае. Жанчына з Жыткавіцкага раёну прыехала, каб ёй дапамаглі адрамантаваць хлеў, бо саўгаснае начальства рабіць гэтага ня хоча. У самім унівэрсаме — вялізная чарга. У продажу — танная кілбаса і вялікі асартымэнт іншага мясного. Звычайна ж крамы пустыя. У краме за рогам асартымэнт аказаўся зусім іншы. Акрамя дастаўкі кілбасаў у краму, да прыезду Лукашэнкі пафарбавалі агароджу ды пару будынкаў, што месьцяцца ўздоўж вуліцы Маладзёжнай. Прыкладна а другой гадзіне да ўнівэрсаму наехала шмат міліцыянтаў і супрацоўнікаў службы бясьпекі, якія нацягнулі стужку, за якой вышыкавалі прысутных. Міліцыянты павыганялі таксама з натоўпу некаторых сьпітых і неахайна апранутых мужчынаў. Яшчэ праз гадзіну паказаўся экскорт, аднак, расчароўваючы прысутных, якія прастаялі на вуліцы пры дрэнным надвор'і каля пяці гадзінаў, Лукашэнка праехаў упрочкі. Тады натоўп дварамі кінуўся да стадыёну, дзе стаяў гелікоптэр, які, пакуль людзі дабеглі, ужо падымаўся ў паветра.

Расчараваныя жыхары Мікашэвічаў пайшлі назад у краму. Аднак унівэрсам ужо зачыніўся.

**Аляксей Дзікавіцкі, Мікашэвічы**

# МАРШУ СВАБОДЫ–2000

Славамір АДАМОВІЧ

Марш, марш-2000,
рукі ў замок,
воляю трызьнячы,
мераем крок.

Юныя, моцныя
цягліцы плеч.
Мы паўнамоцныя,
іншыя — прэч!

Воды расталыя,
вецер з Дняпра.
За Край паўсталыя
крыкнем: «Ура!»

Мокра на дворышчах,
сьветла ў душы,
ворагаў зборышчы
сьмела крышы!

Гэй жа, зьвязовы,
хутчэй засьпявай
нашу маршовую
за Родны Край!



Фота IREX-ProMedia

# ПАЛОННЫЯ

***У Горадні працягваецца суд над групоўкай з 10 чалавек, якія ня здолелі за грошы правесьці цераз беларуска-польскую мяжу віетнамцаў, аўганцаў ды іншых нелегалаў.***

Палоннымі сьледчыя называюць самі кантрабандыстаў, якія, канечне ж, здаліся бяз бою, зброі ня мелі. Але ў судовую залю іх дастаўляюць пад вартай, счэпленымі папарна аднымі кайданкамі на двух.

Правальнымі аказаліся для іх дзьве начныя акцыі — 6 жніўня і 5 лістапада 1999 году, калі памежнікі схапілі групы нелегалаў на падыходах да мяжы. У першай было 15 чалавек, у другой — 26. Ходзяць дзьве вэрсіі наконт прычынаў правалаў. Першая — спрацавала агентура. Другая — самі арганізатары дзейнічалі непрафэсійна. Кіравацъ падобнымі акцыямі зь Менску проста несур'ёзна. Удала правесьці праз мяжу могуць, мяркуюць, толькі тутэйшыя людзі, якія жывуць каля мяжы. Праўда, адзін з выканаўцаў, Іван С., жыве ў Верцялішках, ад якіх ня вельмі далёка да літоўскай мяжы. Аднак Верцялішкі знаходзяцца па правы бок Нёману, а польская мяжа, ля якой яго схапілі зь нелегаламі, як вядома, зьлева, на захад ад ракі.

Па лёгіцы, правесьці нелегалаў праз літоўскую мяжу, дзе няма калючага дроту, значна лягчэй. Дый мяжа з Польшчай, верагодна, ахоўваецца літоўцамі слабей, чымся беларуска-польская. Аднак у арганізатараў былі свае пляны. Напрыклад, чым цяжэйшая перашкода, тым болей можна спагнаць грошай зь нелегалаў. Пасьля: дзьве мяжы пераходзіць усё адно горш, чым адну. Прычым у Літве давялося б недзе нелегалаў часова хаваць. А тут прасьцей: у Менску загрузілі іх увечары ў машыны, і ноччу яны ўжо былі ля мяжы.

Цікава, што за праваднікоў былі нанятыя палякі, гэта дало сьледзтву падставы лічыць, што галоўны арганізатар — грамадзянін Польшчы. Зноў-такі, па лёгіцы беларусы лепей умеюць нелегальна пераходзіць мяжу. Нашыя больш спрактыкаваныя. У палякаў патрэбы ня было такой патрэбы. Навошта палякам двойчы рызыкаваць, дзеля таго каб пабыць у Саветах? Што да нашых, дык яны часам хадзілі раней і нават цяпер (як кажуць) ходзяць праз мяжу падпольна, напрыклад, да сваякоў — пагасьцяваць, паніць гарэлкі. Хаця нарэшце дазволена пераходзіць мяжу пешшу, чым вельмі карыстаюцца мясцовыя жыхары, частка якіх займаецца кантрабандай сьпірту і цыгарэт. Альбо проста пару разоў на дзень ходзяць тудысюды, праносячы дазволеную норму — дзьве пляшкі гарэлкі і блёк цыгарэт. Зарабляюць такім чынам недзе даляраў пяць за раз.

Што да Літвы (зь якой у нас візавы рэжым), дык, як сьцьвярджаюць знаўцы, некаторыя мясцовыя дакладна ходзяць туды ў краму або носяць гарэлку. Ведаючы, як ня трапіцца памежнікам



Фота IREX-ProMedia

— сваім ці літоўскім. Яшчэ кажуць, што ў памежных вёсках часам можна ўбачыць якога-небудзь пакістанца, які неўзабаве зьнікае. Лічыцца, што гэта надзвычай разумны пакістанец. Паколькі ён ня плоціць вялікія грошы сталічным наўдакам, а дае 100 даляраў вясковаму дзядзьку, які амаль стопрацэнтова завядзе яго ў Літву. Хаця, на першы погляд, больш надзейна быць у групе. Але іх летась было спынена на мяжы цэлых дзевяць адным толькі Гарадзенскім памежным атрадам.

Аднак, вернемся ў судовую залю. Першая акцыя рыхтавалася наступным чынам. Грамадзянін Літвы Азенас К. нібыта пазнаёміўся на гарадзенскім рэчавым рынку з 40-45-гадовым мужчынам, які назваўся Стасам. На ягоную просьбу літовец набыў стары грузавік, паводле матэрыялаў сьледзтва — ГАЗ-51. Хаця сам Азенас сказаў на судзе, што гэта «гібрыд», паколькі сабраны з частак розных машынаў. Разам з Іванам С. у Верцялішках яны зрабілі ў кузаве хованку для нелегалаў... Сярод абвінавачаных у судзе знаходзяцца і тры грамадзяніны Польшчы. Усіх іх засьпелі на гарачым, і віну сваю яны прызналі, таму, думаецца, іхныя прозьвішчы можна назваць. Дык вось, жнівеньскай ноччу 15 нелегалаў, дастаўленых зь Менску, былі сустрэтыя тым самым «Стасам», які прыехаў на «Мазьдзе». Сустрэча адбылася ў Гарадзенскім раёне на шашы, якая вядзе ў бок Літвы. Шафёр Іван С. і паляк П.Рамаўноўскі (дарэчы, пракурор на працэсе таксама Рамаўноўскі) прынялі нелегалаў і ў грузавіку накіраваліся зь імі да польскай мяжы. Там іх мусілі сустрэць два мужчыны-праваднікі. Аднак сустрэчы не адбылося. Счакаўшы гадзінку ў дамоўленым месцы, вырашылі падацца далей — у бок мяжы самі, але былі схопленыя памежнікамі.

Паляк паведаміў сьледчым, што ў Сувалках, дзе ён жыве, у бары адзін мужчына, які назваўся «Сташкам», прапанаваў яму зарабіць. Патлумачыў, што за пераправод праз мяжу групы з 30—40 нелегалаў будзе плаціць 1000 даляраў, і даў нумар свайго тэлефону ў Горадні. Пазьней Рамаўноўскі прыехаў у Горадню, Сташэк сустрэў яго на вакзале і сказаў, што з працай затрымка. Наступным разам яны сустрэліся ў сквэры каля гарадзенскага Т-34. Рамаўноўскі пражыў у Горадні цэлы тыдзень, чакаючы працы, але яму давялося вярнуцца дахаты. На трэці раз праца была, але скончылася ўсё арыштам.

Наступным разам, калі было схоплена 26 нелегалаў, памежнікі захапілі і двух палякаў-праваднікоў. Маладзейшы, П.Шышко — таксама з Сувалкаў, беспрацоўны, мае двух дзяцей. Яму паабяцалі 1500 злотых. Другі, старэйшы, А.Кавалеўскі, мусіў атрымаць яшчэ менш — 1000 злотых. Ён адзіны — жыхар блізкай да мяжы зоны. Жыве з маці на хутары, мае 17 гектараў зямлі, у якія, магчыма, так і ня суджана будзе сёлета легчы зерню. Зрэшты, паводле словаў адвакатаў, ёсьць шанец, што палякаў пакараюць не зьняволеньнем, а вялікай грашовай карай. Гэта пры Сталіне ды Андропаве саджалі — чым паболей. Тады нявольніцкая праца мела вялікае народна-гаспадарчае значэньне. Цяпер працы для зьняволеных звычайна няма, а карміць іх трэба. Дый месца ў турмах бракуе.

З 1 ліпеня паводле новага адміністрацыйнага кодэксу тых, хто ўпершыню трапіўся на мяжы, будуць адназначна штрафаваць. Турма, як цяпер, ім ня будзе пагражаць. Памежнікі лічаць, што такая лібэралізацыя абавязкова павялічыць шэрагі тых, хто паспрабуе ўцячы праз мяжу. Мы да гэтага не зусім гатовыя, кажа памежніцкае начальства.

Па справе праходзіць таксама Сяргей П., які больш за 20 гадоў пражыў у Літве, мае там сям'ю, але не атрымаў грамадзянства. Апошнім часам, як высьветлілася, яго шукалі літоўскія ўлады праз Інтэрпол. Сярод падсьледных таксама Саідас Г. — азэрбайджанец з паходжаньня, грамадзянін Літвы, і А.П. — індус з Пэнджабу, які жыве ў Менску, а таксама яшчэ два грамадзяніны Беларусі. Таго славутага «Стаса» ці «Сташка» не зьлавілі. Віну сваю прызналі спачатку ня ўсе. Грошы на адвакатаў таксама ёсьць не ва ўсіх. Часткі кантрабандыстаў адвакатаў аплоціць дзяржава. Адзін з падсудных, манчук, ад абароны адмовіўся ўвогуле.

Працэс адбываецца ў найлепшай зале суду з самай вялікай клеткай. Абапал судзьдзі пустуюць крэслы былых «народных засядацоў», зробленыя ў добрыя савецкія часы. На высокіх сьпінках засталіся сьляды ад адарваных сярпа з молатам. Крэсла судзьдзі таксама адметнае — круглай сьветлай плямай ад савецкага гербу. Новы вісіць вышэй, над галавою, і чакае прысуду.

**Сяргей Астраўцоў**

RADIO FREE EUROPE RADIO LIBERTY

БЕЛАРУСКАЯ СЛУЖБА РАДЫЁ СВАБОДА

*Новыя хвалі ад 26 сакавіка 2000 году*

| ЧАС | kHz | ХВАЛІ | ЧАС | kHz | ХВАЛІ |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | 22:00-23:30 | 6105 | 49 |
| 18:00 - 19:30 | 7295, | 41 | | 9535,9750 | 31 |
| | 9610 | 31 | | 11865 | 25 |
| | 11725 | 25 | | | |
| | 15565 | 19 | 06:00 - 07:00 | 6065, | 49 |
| | | | | 7295 | 41 |
| | | | | 9635, 9750 | 31 |

*Сярэднія хвалі — 576 / 612 кгц*
Адрас: 220005 Менск–5, п/с 111; Vinohradska 1, Praha 110 00 CZ
*Інтэрнэт:* WWW.SVABODA.ORG

НАСТРОЙЦЕСЯ НА "СВАБОДУ"!

спорт

# ПРАРВАЛІСЯ Ў ЭЛІТУ

*эўрапейскага настольнага тэнісу нашы дзеўкі*

Зь месяц таму, калі беларуская каманда пінг-понгу вярталася на радзіму з правальнага для беларусаў сусьветнага першынства ў Таіляндзе, айчынныя заўзятары пляваліся ды лаяліся. Сапраўды, аматары спорту не маглі быць у захапленьні ад 13-га месца беларусак ды 17-га радка мужчынскай каманды на тайскім мундыялі. Здавалася, што беларускаму настольнаму тэнісу хутка прыйдзе самы сапраўдны гамон. Нават наша беларуская зорка гэтага віду спорту Ўладзімер Самсонаў пачаў спакваля збаўляць абароты, аддаючыся, відаць, шалёнаму каханьню са сваёй сэрбскай пасіяй, якую ён склеіў на нейкім турніры ў Бялградзе. Хтосьці са спартовых фанаў ужо паставіў для сябе крыж на пінг-понгу ды пачаў горача сачыць за нашымі хакеістамі...

Але беларуская зборная настольнага тэнісу на пачатку вясны, скінуўшы зімовую мэлянхалічнасьць, упершыню прабілася ў супэрдывізіён Эўралігі. На шляху беларусак да запаветнай мары стаяла толькі каманда з Бэльгіі. Першая сустрэча суперніц мела адбыцца 7 сакавіка на бэльгійскім курорце Спа, што славіцца сваёй мінэральнай вадзічкай...

Можа, вада ў іх там і лепшая, чым Хомская і Менская-4, але добра махаць ракеткай бэльгійкі ня ўмеюць — беларуская дружына проста раздушыла суперніц — 4:0. Цяпер нашым дзяўчатам, каб прашчаміцца наверх, патрабавалася ўсяго толькі фармальна аформіць свой квіток у найвышэйшы дывізіён праз тыдзень у Менску. Без аніякіх праблемаў беларускі ў другі раз закацілі апанэнткам чатыры банкі, выйшаўшы ў супэрдывізіён супэркамандаў.

Чыё ж месца ў эліце зойме зборная Беларусі? З гэтай самай эліты вылятае... расейская каманда. Што ж, добры падарунак да Дня Волі. А 21 красавіка стартуе чэмпіянат Эўропы...

**Богусь Біятлянёнак**

## Прэзэнтацыя ў духу Маршу

Уладзімер Арлоў і Генадзь Сагановіч прэзэнтавалі свае «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі» ў мурох легендарнага Беларускага ліцэю. Аўтары «Дзесяцёх вякоў...» ролю гэтай навучальнай установы для Беларусі акрэсьлілі так: «Ліцэй можа прэтэндаваць на сваё месца і ў нашай кнізе. Будзе зьдзейсьнены, напэўна ж, і праект кнігі пра ліцэй — нехта можа яе ўжо піша. Шмат старонак пра ліцэй можна знайсьці ў кнізе «Аняменьне», хоць і не адпаведны назоў яна мае: голас беларусаў не нямее, а гучыць мацней і мацней». На імпрэзе панаваў дух яшчэ нядаўна мінулага Маршу Свабоды—ІІ. «Няўжо Беларусі наканавана быць краем засьнежанага веліканa, куды ніколі не прыйдзе Вясна?» — запыталася адна ліцэістка. У.Арлоў адказаў гэтаксама вобразна: «Калі паслухаць дыктараў БТ, якія называюць апанэнтаў рэжыму «адмарозкамі», у нас усё больш «адмарожаных», і на карысьць гэтага сьведчыць Марш Свабоды—ІІ. Я з аптымізмам гляджу ў будучыню. Прагнозы — рызыкоўная рэч. Дастаеўскі напісаў у дзёньніку: «Зайздрошчу ўнукам і праўнукам, якім наканавана пабачыць Расею ў 1941 годзе»...

Аўтары «Дзесяцёх вякоў...» прызналіся, што пяцёхтысячны наклад амаль разышоўся, і цяпер паўстае патрэба перавыданьня. Раней У.Арлоў адмаўляў магчымасьць працягу кнігі ад 1918 году да сёньня, але гэтым разам нечакана выдаў пакуль яшчэ няпэўныя пляны: «Можа мы дапішам кнігу, калі пачнецца новае стагодзьдзе, бо з адлегласьці лепей будзе відаць панараму падзеяў».

**Віктар Мухін**

дзе варта быць

## Слухай сваё

Канцэрты з сэрыі «Слухай сваё» працягваюцца. У хуткім часе мае выйсьці новы кампакт гэтага ўдалага праекту. 22 сакавіка клюб «Магна» (Кульман 14) прадстаўляе гурт «Zmest» з дэбютным альбомам «Kafkeanski» і каманды «Angelis» ды «Biez Bileta» з сваімі новымі праграмамі. Акцыя адбудзецца а 19 гадзіне. Квіткі — 1200 рублёў.

## Швед ды Лукша

23 сакавіка а 18-й гадзіне ў вялікай залі Дому літаратара (Фрунзэ 5) адбудзецца вечарына, прысьвечаная 75-годзьдзю паэта зь Беластоку Віктара Шведа. Сярод гасьцёў — паэтка Міра Лукша.

## Мінэралягічны кірмаш

З 24 да 26 сакавіка геафак БДУ і музэй глебазнаўства праводзяць у галоўным корпусе ВДУ на пл.Незалежнасьці 11-ю міжнародную мінэралягічную выставу-кірмаш «Каменная казка», прымеркаваную да Дня геоляга. На ёй можна паглядзець і набыць сувэніры з каменя, дрэва і скуры.

## Экзыстэнцыялізм

21 сакавіка ў Беларускім калегіюме зноў лекцыя. Гэтым разам гаворка пойдзе пра Жан-Поля Сартра. Тамара Тузава будзе разважаць пра праблему свабоды ў разуменьні гэтага выбітнага філёзафа і пісьменьніка. Пачатак а 18.30 у бібліятэцы імя Янкі Купалы (Харужай 21).

## Plurilinguisme

27-га а 15-й у Эўрапейскім гуманітарным унівэрсытэце (пр.Скарыны, 24, аўдыторыя 307) адбудзецца франкамоўны форум і круглы стол на тэму «Дзяржава і шматмоўе» з удзелам навукоўцаў з Францыі, Канады і Альжыру.

## Адважнае сэрца

Менавіта такое сэрца меў Брэд Уолэс — кіраўнік паўстаньня шатляндцаў супраць ангельскага панаваньня. Чаго толькі няма ў гэтым фільме: і харобрыя мужчыны, і пекныя жанчыны, і тактыка змаганьня, і адрубленыя рукі й галовы. Нарэшце — па-наску ў Беларускім відэаклюбе (Румянцава 13). Квіткі — 100 руб.

## Старадаўняя музыка

Ансамбаль старадаўняй музыкі «Кантабіле» некалі вельмі хораша адыграў славуты «Полацкі сшытак» — нават касэту выдаў. Музыкі выступаюць у панядзелак 20 сакавіка у касьцёле Сьвятога Роха. Кіруе ансамблем Генадзь Гедыльтэр. Квіткі — 250 рублёў.

## Попс-каранацыя

Гэтая імпрэза адбудзецца 25 сакавіка ў А-клюбе (Бяды 4). Падзеленая яна на дзьве часткі — «дзень» і «ноч». Першая пачынаецца а шостай вечара ды працягнецца да 23 гадзінаў. Выступаць будуць розныя гурты, у тым ліку «Папенкіна бэнд», «Любоў і спорт» «Дэструктыўны вірус» ды «Evtanazia». Ноччу да 6 раніцы шчыруюць адно ды-джэі. Уваход на дзень 1500, на ноч — 2000, на ўсю акцыю — 2500 рублёў.

## Дзесяць вякоў

23 сакавіка ў дольнай залі Чырвонага касьцёла (плошча Незалежнасьці) адбудзецца апошняя менская прэзэнтацыя кнігі Ўладзімера Арлова й Генадзя Сагановіча "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі". Пачатак а 18-й. Уваход вольны.

**Алесь Кудрыцкі**

БТ вачыма беларуса

# НЯМОЕ ТВ

Прыціхлі размовы пра адкрыцьцё другога беларускага каналу. Ніхто не хавае, што грошай няма й на адзін. На БТ зрываюцца запланаваныя здымкі, скарачаюцца камандзіроўкі і выезды — бэнзіну таксама няма. Размовы ідуць адно пра скарачэньне эфіру ды штату. Дзяржава адмаўляецца трымаць наскрозь дзяржаўнае тэлебачаньне. Улады кажуць: самі павінны выжываць. Але ці ня ўлады вінаватыя, што беларускі «блакітны экран» шэры ва ўскосным і простым сэнсе, бо ня можа й слова сказаць без прымусу? Што ў краіне няма каму даваць для тэлебачаньня рэкляму? І што замест злабадзённых тэмаў у эфіры ў любой прыгодзе чуеш адно — «аляксандар лукашэнка».

У атмасфэры ўсеагульнага занападу ды амаль усеагульнай абыякавасьці, што пануе на БТ, не зьдзіўляесься, калі бачыш перадачы з такімі жахлівымі хібамі, якімі вызначыўся на мінулым тыдні «Тураб'ектыў». Неблагі ў прынцыпе расповед пра Чэхію ішоў голым тэкстам па відэашэрагу без аніякай музычнай агучкі, якой патрабуюць перадачы такога роду. Болей за тое, нават пасьля таго як у закадравай начытцы гучалі фактычна запрашэньні паслухаць песьні ці праскія аркестрыкі, далей ішло нямое кіно. З кадрамі тых аркестрыкаў. Можна паверыць, што ў працоўнай запарцы не заўважылі, як гук не запісаўся. Але каб ніхто не сабраўся праверыць, што пускаюць у эфір?! Маўляў, не палітыка, дык хай там хоць чорта лысага...

У наступную сераду ў 18.20 пасьля доўгага перапынку выйдзе чарговая праграма сэрыі «Цені і постаці». Сэрыя распавядае пра асобаў беларускае гісторыі і культуры, якія заслугоўваюць ушанаваньня, але практычна забытых. Гэты выпуск прысьвечаны слыннаму опэрнаму артысту першай паловы XX ст. Сэлеху-Качанскаму. «Забытаму», бо быў несавецкім чалавекам. Матэрыял для праграмы здымаўся ў Менску і Пецярбургу. Пра колькіх беларускіх славутасьцяў можна было б распавесьці, зьезьдзіўшы ў тую ж Прагу — але дзе тыя грошы?..

**Арцём Лук'яновіч**

## «Вялеса» ўручылі Папеку

18 сакавіка ў Полацку Таварыства Вольных Літаратараў уручыла штогадовую літаратурную прэмію «Гліняны Вялес» паэту-пчаляру з Пружаншчыны Міколу Папеку. Прамова ляўрэата была прысьвечана вайне: «Перамога ў «Вялікай Айчыннай Вайне» ў сутнасьці не была нашай перамогай і таму не дала здароўя нашаму духу». Потым паэт чытаў свае вершы.

**Алесь Аркуш**



19 красавіка (серада)
*у канцэртнай залі «Менск»*
*адбудзецца прэзэнтацыя альбому*
**«ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ: НОВАЯ АЛЬТЭРНАТЫВА»**
*з удзелам беларускіх гуртоў «NRM», «Нейродюбель», «Крама», «Крыві», «Палац», «Уліс», «Тройца», «Новае Неба», «Лявоны» і гасьцёў зь Беластоку (Польшча) — гурта «R.F.BRAHA».*
Пачатак а 19-й.
*Праход журналістаў па папярэдняй акрэдытацыі.*
*Дадатковая інфармацыя праз тэл.: (017) 227-51-09*

**ГІСТОРЫЯ ЦАЦАК**




**«ЖЫЦЦЁ ЖУКОЎ», «МЕЧ У КАМЕНІ», «БАЛТО», «АЛІСА Ў КРАІНЕ ЦУДАЎ», «ПРЫГАЖУНЯ Ў СОННЫМ ЛЕСЕ»** — мультыплікацыйныя фільмы, дубляваныя па-беларуску акторамі вядучых менскіх тэатраў.

**НАВІНКІ!**

**«АЗБУКА ДЛЯ МАЛЕНЬКІХ», «ЕХАЎ КАЗАЧНІК БАЙ», «ЦІК-ТАК ХОДЗІКІ», «БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ КАЗКІ», «СТОЙКІ АЛАВЯННЫ САЛДАЦІК + КАЛІФ-БУСЕЛ»** — аўдыёкасэты з запісамі казак, калыханак, песьняў для маленькіх беларусаў.

**Цяпер і ў Віцебску:**
**вул. Гогаля 14, крама "Сучасьнік"**




Кошт відэакасэты — **2 000** руб.,
кошт аўдыёкасэты — **600** руб.
Зьвяртайцеся на тэл.: **8 (017) 228-45-88.**

Касэты можна замовіць, пералічыўшы грошы звычайным паштовым пераказам на рахунак ЗАТ «Сотвар» р/р 3012000000195 ф-л №506 ОАО СБ «Беларусбанк», г.Мінск код 809. У графе «Для пісьмовага паведамленьня» напішыце, якую касэту вы замаўляеце.

## Падпіска падоўжаная да 22 сакавіка

«Наша Ніва» — больш, чым проста газэта. Гэта розум і голас незалежнага беларускага грамадзтва. Дык падпісвайцеся! Падпісны індэкс 63125. Падпіску на «НН» прымаюць на любой пошце, у любым шапіку «Белсаюздруку».

Падпіска на другі квартал падоўжаная да 22 сакавіка. Яна каштуе:

для менчукоў на шапік ці краму «Белсаюздруку» — 1170 руб. (на кожны месяц — 390 руб.);

звычайная на пошце ці ў «Белсаюздруку» — 1317 руб. (на месяц — 439 руб.)

Менчукі! Падпіска на шапік вельмі зручная: абыходзіцца таньней, чым купляць, а забіраць можна хоць у панядзелак, хоць калі хочаш, нават праз месяц. Сьпіс шапікаў мы тутака падаем. Вельмі просім: калі Вы купляеце газэту штотыдня, дык, калі ласка, замест гэтага падпішыцеся. Вось чаму: продаж праз «Белсаюздрук» выходзіць для газэты стратны, а падпіска прыносіць прыбытак (хоць для Вас падпіска таксама выгаднейшая за продаж). Бо калі прадаюць газэту ў шапіку, дык 40% кошту «Белсаюздрук» бярэ сабе, а рэшту грошай нам вяртае толькі праз 3 месяцы. І мы ня маем як разьвівацца.

Дык падпішыцеся, калі ласка. Бо Беларусь мяняецца, а «Наша Ніва» застаецца.

**Рэдакцыя**

## «Наша Ніва» — газэта тваёй вясны

**25 сакавіка — Дзень Волі, 2 красавіка — Дзень Пратэсту, 26 красавіка —Чарнобыльскі Шлях, 1 траўня — Дзень Салідарнасьці. «Наша Ніва» будзе першай пісаць пра ўсе гэтыя падзеі.**

## Вясна-2000 — з «Нашай Нівай»

Падпісны індэкс
**63125**
**НАША НІВА**

Ніжэй мы падаем сьпіс пунктаў, дзе можна падпісацца й забіраць газэту:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Кастрычніцкі пункт падпіскі | вул. Жукоўскага, 5, к. 1 | 17. Крама № 14 | вул. Валадарскага, 22 | 33 Шапік №2 | Лінгв. ўнів т, вул. Захарава, 21 |
| 2. Партызанскі пункт падпіскі | вул. А.Кашавога, 8 | 18. Крама № 15 | вул. Максіма Танка, 16 | 34. Шапік №16 | гатэль «Сьвіслач», вул. Кірава 13 |
| 3. Першамайскі пункт падпіскі | пр. Ф.Скарыны, 113 | 19. Крама № 16 | вул. В.Харужай, 24 | 35. Шапік №18 | Тэхн. ўнів-т, вул. Сьвярдлова, 13/4 |
| 4. Фрунзенскі пункт падпіскі | вул. Рам. Слабада, 9 | 20. Крама № 17 | вул. Някрасава, 35 | 36. Шапік №37 | Дом Ураду, вул. Савецкая, 11 |
| 5. Крама № 1 | вул. Жукоўскага, 5 | 21. Крама № 18 | ст. м. «Плошча Перамогі» | 37. Шапік №38 | Педаг. ўнів-т, вул. Савецкая, 18 |
| 6. Крама № 2 | пр. Ф.Скарыны, 44 | 22. Крама № 19 | пр. Машэрава, 51, к. 1 | 38. Шапік №40 | Менгарвыканкам, пр. Ф. Скарыны, 8 |
| 7 Крама № 3 | пр. Ф.Скарыны, 76 | 23. Крама № 20 | вул. Ясеніна, 16 | 39. Шапік №88 | Менаблвык-м, вул. Энгельса, 4 |
| 8. Крама № 4 | вул. Леніна, 15 | 24. Крама № 21 | станцыя мэтро «Пушкінская» | 40. Шапік №95 | вул. Мясьнікова, 39 |
| 9 Крама № 6 | вул. Філімонава, 1 | 25. Крама № 23 | вул. Славінскага, 39 | 41. Шапік №198 | Эканамічны ўнів-т |
| 10. Крама № 7 | вул. Якуба Коласа, 69 | 26. Крама № 24 | вул. Жылуновіча, 31 | 42. Шапік №209 | МАЗ, вул. Сацыялістычная, 2 |
| 11. Крама № 8 | вул. Сурганава, 40 | 27. Шапік № 34 | гатэль «Менск», пр. Ф.Скарыны, 11 | 43. Шапік №228 | Ўнів-т культуры, вул. Рабкораўская, 17 |
| 12. Крама № 9 | пр. Ракасоўскага, 140 | 28. Шапік № 136 | ст. м. «Пл. Я.Коласа», выхад да Ак. Ф-ры | 44. Шапік №232 | МЭХ, пр. Машэрава |
| 13. Крама № 10 | вул. Асіпенкі, 2 | 29. Шапік № 187 | гатэль «Беларусь», вул. Старажоўская, 15 | 45. Шапік№243 | Саўмін, вул. Савецкая, 9 |
| 14. Крама № 11 | пр. Пушкіна, 77 | 30. Шапік № 262 | гатэль «Плянэта», пр. Машэрава, 31 | 46. Шапік №245 | Бальніца хут. дапамогі, вул. Кіжаватава, 56 |
| 15. Крама № 12 | вул. Кіжаватава, 80 | 31. Шапік № 78 | гатэль «Юбілейны», пр. Машэрава, 19 | 47. Шапік №298 | пр. Машэрава, 75/1 |
| 16. Крама № 13 | вул. Каліноўскага, 82, к. 2 | 32. Крама №25 | вул. К.Маркса, 21 | 48. Шапік №302 | 9-я бальніца |

## Салідарнасьць з Чачэніяй

У пятніцу 15 фронтаўцаў наладзілі пікет салідарнасьці з Чачэніяй і перадалі пэтыцыю пратэсту ў расейскае пасольства, а ў суботу на Варвашэні, 8 Малады Фронт ладзіў «Грамадзкі працэс» над вайной у Чачэніі — «Барацьба за незалежнасьць і генацыд: праўда супраць хлусьні».

На слуханьні запрасілі журналістаў, вайскоўцаў і праваабаронцаў — у якасьці сьведкаў і экспэртаў. Таксама былі прысяжныя (паэт Артур Вольскі, галоўны рэдактар «Беларускай Маладзёжнай» Тацяна Мельнічук-Нічыпарук, палітык Вячаслаў Сіўчык і сьпявачка Кася Камоцкая), два супрацiўныя бакі («расейскі» і «чачэнскі»), апытаньні і сьведчаньні. Бакі расказвалі пра міжнароднае заканадаўства пры вайсковых канфліктах, пра захопы закладнікаў, масавыя забойствы і фільтрацыйныя лягеры. Яўген Скочка прывёз з Масквы, з Камітэту салдацкіх мацярок, здымкі і прыводзіў сьведчаньні злачынстваў на вайне. Выступіла на працэсе і даўняя аўтарка «НН» Тацяна Сьнітко — яна рабіла рэпартажы з Паўночнага Каўказу ў часе першай чачэнскай кампаніі.

Вынікам працэсу стала аб'яўленьне Маладым Фронтам збору дапамогі ахвярам вайны. Гуманітарныя пасылкі маюць быць адпраўленыя ў лягеры чачэнскіх уцекачоў. Ахвярадаўцы могуць зьвяртацца на Варвашэні, 8.

P.S.



Сем прэзыдэнтаў на спатканьні ў Гнезьне, 1997

# НАД ГРОБАМ АДАЛЬБЭРТА

12 сакавіка ў польскім горадзе Гнезна адбылося спатканьне прэзыдэнтаў Польшчы, Вугоршчыны, Нямеччыны, Славаччыны і Літвы. Размова была пра эўрапейскае ядналньне, супрацоўніцтва, патрэбу новай канцэпцыі будовы агульнай супольнасьці народаў, якія прадстаўляюць розныя культуры і рэлігіі. Вацлаў Гавэл не прыехаў, бо ляжаў у вайсковым шпіталі — яму камуністычныя турмы зьелі лёгкія. Леанід Кучма памяняў пляны напярэдадні, бо здарылася трагедыя ў вугальнай шахце ў Данбасе. Лукашэнку ніхто не запрашаў.

Першая сустрэча прэзыдэнтаў (таксама без Лукашэнкі) адбылася ў Гнезьне ў 1997 годзе, калі зь імі спаткаўся Рымскі Папа. А перад тым прэзыдэнты краін балта-чарнаморскага пасу спаткаліся ў Таліне. Лукашэнкі, зразумела, таксама не было. Ён супрацьпаставіў тады эўрапейцам расейка-беларускую парлямэнцкую сэсію ў Берасьці і паездку дэпутатаў у Віскулі пры польскай мяжы, дзе яны лаялі тых, хто скасаваў савецкую імпэрыю.

Сёлетняе спатканьне ў Гнезьне адбылося праз 1000 гадоў пасьля вядомага «гнезьненскага зьезду». Менавіта ў 1000 годзе германскі імпэратар Отан III, які вельмі шанаваў вядомага хрысьціянскага Сьвятога Адальбэрта, наведаў Гнезна, дзе знаходзілася ягоная грабніца. Польскі кароль Баляслаў Харобры прыняў імпэратара зь вялікай пашанай, а госьць прызначыў яго суправіцелем імпэрыі і ўсклаў яму на галаву каралеўскую дыядэму. Як паведамляе «Вялікапольская кроніка», германскі імпэратар падарыў гаспадару таксама хрысьціянскія рэліквіі — «дзіду Сьвятога Маўрыкія і цьвік Гасподні», а Баляслаў яму — «руку сьвятога пакутніка Адальбэрта».

Гнезна — гістарычная сталіца Польшчы. Паводле «Вялікапольскай кронікі», менавіта легендарны Лех тут пабудаваў сабе сталіцу. У X ст. горад быў сталіцай дзяржавы Пястаў, а да XIV ст. тут каранаваліся ўсе каралі. У Гнезьне пахаваны патрон сёньняшняй аб'яднанай Эўропы — Сьвяты Адальбэрт (ён вядомы таксама пад імем Сьвятога Войцаха). Ён быў праскім біскупам, затым быў запрошаны з Чэхіі ў Польшчу пры канцы 996 году каралём Баляславам Харобрым. У наступным годзе біскуп адправіўся хрысьціць прусаў, але быў імі забіты. Яго абвясьцілі сьвятым у 999 годзе.

Беларусь у тыя часы толькі стала хрысьціянскай. У 992 годзе ў Полацку зьявіўся першы япіскап. А ў 1000-м памёрла першая манашка — князёўна Рагнеда, у манастве — Настасься.

Сяргей Астраўцоў

# МАНЭТЫ З КНЯЗЯМІ

*У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі экспануецца выстава, прымеркаваная да 10-х угодкаў абвяшчэньня 11 сакавіка 1990 году Акту пра аднаўленьне дзяржаўнае незалежнасьці Літвы.*

Тут выстаўленая копія гістарычнага дакумэнту з подпісамі старшыні парлямэнту Вітаўтаса Ландсбергіса й дэпутатаў, фотаздымкі тае гістарычнае сэсіі заканадаўчага органу, тады яшчэ Вярхоўнага савету Літоўскай ССР на тле яшчэ савецкага гербу краіны, і побач цяперашняе фота тае самае залі з «Пагоняй» на месцы літоўскае «капусты». Каляровыя выявы Вільні: катэдральны касьцёл сьвятога Станіслава, палац прэзыдэнта ў колішнім доме губэрнатара, багатая ляпніна касьцёлу Пятра й Паўла на Антокалі, часткова адноўлены Верхні замак зь вежаю Гедыміна, Вострая Брама, унівэрсытэт і касьцёл сьвятога Яна, дзе месьціца арган са зьнішчанага бальшавікамі полацкага касьцёла сьвятога Стафана... Беларускасьць Вільні адчуваецца ў кожнай вежачцы, у краявідзе нашае колішняе сталіцы.

Але прысьвечаная выстава пераважна літоўскім манэтам. Можна паглядзець на буклеты з добрымі выявамі юбілейных грошай. У 1920 годзе Сэйм Літвы ўхваліў закон аб Грашовай адзінцы (ліце) і Банку Літвы. 2 кастрычніка 1922 году ў абарачэньне паступілі першыя літы й цэнты — драбяза. 1 сакавіка 1990 быў адноўлены Банк Літвы, а разам зь ім заснаваны Літоўскі манэтны двор. Поруч з наклaдамі манэт для шырокага абарачэньня ад 25 чэрвеня 1993 году выпускаюцца й юбілейныя. Цікава, што назваць усе юбілейныя манэты цалкам літоўскімі не выпадае. Паводле выяваў і тэмаў гэта часткова беларускія манэты Банку Літвы. Шмат прысьвечана вялікім князям літоўскім (з сэрыі «Гаспадары Літвы»): усе яны маюць намінал 50 літаў, дыямэтар 34.00 мм і вагу 23.30 грамы, зробленыя з срэбра; выпушчаныя асобнікі, прысьвечаныя Міндаўгу (у буклеце на тле Навагрудзкага ўзвышша), Альгерду (на тле Крэўскага замку), Кейстуту (на тле Троцкага замку), Гедыміну (на тле Медніцкага замку). Асобна вылучаюцца манэты, прысьвечаныя літоўскім асьветнікам і навукоўцам: калі прыналежнасьць да суседняга народу мастака Мікалоюса Канстанцінаса Чурлёніса, выдаўца першае кнігі ў жамойцкім дыялекце Марцінаса Мажвідаса, музыкі Вінцаса Кудзіркі не выклікае сумневаў, дык профілі «літоўскага» паэта Адомаса Міцкявічуса й нашага земляка, геніяльнага канструктара сярэднявечча Казімераса Семяновічуса, аўтара кнігі «Вялікае мастацтва артылерыі», нам не чужыя. У 1997 годзе літоўцы на сваіх манэтах адзначылі 600 гадоў зьяўленьня татараў і караімаў у Вялікім Княстве Літоўскім, а ў 1998 — візыт у сваю краіну папы Яна Паўла II. Асобна вылучаюцца манэты аб крывавых падзеях 13 студзеня 1991 году (выява Маці Божае зь дзіцем), з нагоды 75-годзьдзя Літоўскага Банку, да 10-годзьдзя аднаўленьня дзяржаўнае незалежнасьці й манэта, прысьвечаная слаўнаму «Балтыйскаму шляху». Асобна стаіць манэта, што выпушчаная з нагоды праграмы UNICEF «Дзеці сьвету». Гэтаксама цікавая манэта, што была адбітая ў 60-гадовы юбілей палёту Сьцяпонаса Даруса й Стасіса Гірэнаса праз Атлянтыку. Дзьве манэты лучыць спартовая тэматыка: адна пра 5-я спартовыя гульні літоўцаў сьвету, другая прысьвечаная летній алімпіядзе 1996 году ў Атлянце. Гэтаксама распачата сэрыя манэт «Месты Літвы»: у 1998-м выйшла манэта з ценярысамі Вільні, а летась — з выявамі архітэктурных помнікаў Коўна. Усе манэты выпускаліся ў срэбры, і толькі адна выйшла залатая: наміналам 10 літаў і з надпісам па-лацінску «AVREVS NVMMVS LITVANIAE» побач з выяваю каваля, манэта мае дыямэтар 13.92 міліметры й вагу 1.244 грама — гэта адзін з найменшых залатнікоў у сьвеце. Беларусам застаецца цешыцца з нумізматычных посьпехаў сваіх суседзяў ды пазіраць на чужыя выявы сваіх князёў і асьветнікаў.

Віктар Мухін

# ЛІСА Ў ЭЎРАПЕЙСКІМ КУРАТНІКУ

Пярэпалах, які нарабіў Ёрг Гайдэр са сваёй Партыяй Свабоды, ужо даўся Аўстрыі ў знакі: дзяўбуць Гайдэра, а дастаецца ўсёй краіне. 4 лютага, калі новы аўстрыйскі ўрад, у які ўвайшла і Партыя Свабоды, прыняў прысягу, на Аўстрыю наклалі санкцыі: Ізраіль адклікаў свайго пасла, эўрапейскія краіны прыпынілі міждзяржаўныя сувязі, зьвялі да мінімуму кантакты з аўстрыйскімі паслaмі ды адмовілі ў падтрымцы аўстрыйскім кандыдатам на міжнародныя пасады.

Калі міністар замежных справаў краіны Бэніта Фэрэра-Вальднэр узмалілася ў Брусэлі аб зьмякчэньні санкцыяў на падставе рэпутацыі Аўстрыі як дэмакратычнай краіны, падмацаванай шматлікімі накіраванымі на падтрымку правоў чалавека заявамі з боку яе ўраду, ёй запярэчыў міністар замежных справаў Партугаліі, якая цяпер старшынюе ў Эўразьвязе: паводле ягоных словаў, гэтых заяваў было падазрона шмат.

Атрымліваецца, аўстрыйцы насьцярожваюць і тады, калі маўчаць пра правы меншасьцяў ды эўрапейскія вартасьці, і тады, калі гавораць пра іх.

Цікава, што Эўразьвяз сам сабою афіцыйна ня сварыцца з Аўстрыяй, якая не парушыла ягоных законаў. Санкцыі наклалі паасобку ўсе краіны, якія складаюць гэтае звышдзяржаўнае ўтварэньне. У авангардзе асуджэньня «аўстрыйскіх экстрэмістаў» ішлі Францыя, Бэльгія й Партугалія.

Да барацьбы адразу далучыліся культурныя дзеячы, якія пачалі складаць пэтыцыі, у якіх адмаўляліся ў будучыні ад падтрымкі сваёй творчасьці з боку аўстрыйскага ўраду. Вядома, многія сапраўды шчыра пратэстуюць супраць ксэнафобскіх выказваньняў Ёрга Гайдэра, але ёсьць і такія, хто адно жадае зарабіць сабе папулярнасьці на хвалі барацьбы з замежным «фашызмам».

Несумненна, Гайдэр — гэта рэха самага цёмнага боку палітычнага жыцьця Аўстрыі. Але зараз ня 1933 год, Партыя Свабоды — не нацысцкі рух, а Ёрг Гайдэр — ня Гітлер. Прыбытак на аднаго насельніка ў Аўстрыі вышэйшы, чым у Нямеччыне ды Францыі, а беспрацоўе сярод моладзі — найніжэйшае ў Эўропе (6,6%). Але ж Гайдэраву «фольксспартай» падтрымлівае большасьць аўстрыйскай моладзі. Гэта кажа пра тое, што Ёрг Гайдэр — нездаровы прадукт зьменаў, а ня крызысу. Чатыры дзесяцігодзьдзі Аўстрыя была нэўтральнай, а значыцца, у нечым выключанай з эўрапейскіх працэсаў. Часам здаецца, што краіна выпала з гістарычнага часу. Гайдэр, які падкрэсьлівае сваю прыналежнасьць да пасьляваеннага пакаленьня ды адмяжоўваецца ад аўстрыйскага мінулага, ужывае рыторыку пяцідзесяцігадовай даўніны, згадваючы пра «слаўных салдатаў» нацысцкай арміі, якія «выконвалі свой абавязак» на ўсходнім фронце. Тое самае прамаўляў, скажам, шанаваны ўсімі Конрад Адэнаўэр у сакавіку 1946 году. Але калі адразу па вайне такія погляды былі вельмі распаўсюджанымі, дык праз паўстагодзьдзя яны сапраўды выклікаюць насьцярожанасьць сьвету і, найперш, суседзяў Аўстрыі.

Але пры гэтым усё ж, чаму Гайдэру забаранілі наведаць музэй Галякосту ў Манрэалі? Вядома, хацелі ня даць аўстрыйскаму маладому гаварыну рэабілітавацца пасьля ўсяго, што ён нагавварыў наконт другой сусьветнай вайны. Але ж нават Эйзэнгаўэр у 1945 годзе прымушаў немцаў наведваць былыя канцлягеры, каб яны ведалі, што нарабілі. Ці ж музэй Галякосту ня служыць выхаваньню такіх асобінаў, як Гайдэр?



Чаму аўстрыйцы галасуюць за Гайдэра? Нацыяналізаваная, кантраляваная ды кіраваная дзяржавай, канфармісцкая, надзейная Аўстрыя ў нечым набліжалася да ідэалу «рэальнага сацыялізму», да якога імкнуўся камуністычны блёк. Шырокая падтрымка аўстрыйцамі новых рухаў кшталту зялёных ці Партыі Свабоды — гэта іхнае імкненьне разбурыць старую палітычную сыстэму Аўстрыі, базаваную на дзьвюх партыях, сацыялістычнай і народнай, што зьмянялі адна адну пры ўладзе. Усё гэта нечым нагадвае падзеньне таталітарных рэжымаў ва Ўсходняй Эўропе, а Гайдэр падобны да тых папулістаў, якія ўмела павылазілі да ўлады з-пад руінаў сацыялістычнай сыстэмы.

Можна правесьці і паралелі з Захадам, дзе мясцовыя гайдэры мо й не даходзяць да ўлады, але таксама зьбіраюць ад 12 да 18% галасоў — у большасьці краінаў Эўропы, апроч, хіба што, Вялікай Брытаніі ды Партугаліі.

Вядома, заявы Ёрга Гайдэра нельга было пакідаць без адказу. Але эўрапейская рэакцыя толькі павялічвае папулярнасьць Гайдэра ў сябе на бацькаўшчыне — так, як часта павялічвае папулярнасьць іншых крытыкаваных Эўропаю рэжымаў.

Зараз Гайдэр можа з поўным правам заявіць, што ідэя аб'яднанай Эўропы небясьпечная для палітычнай самастойнасьці і нацыянальных інтарэсаў Аўстрыі — «бачыце, як яны нас душаць». «Хто, — пытаюцца гайдэры ў сваіх суайчыньнікаў, — абароніць нас ад засільля эўрабюракратаў?» А калі патрабаваньні да ўступленьня новых краінаў у Эўразьвяз пачнуць балюча кусаца, гэткія словы можна будзе пачуць і з Усходу.

Крызыс у Аўстрыі — не вынятак з правілаў эўрапейскай палітыкі, а характэрная рыса. На жаль, суседзі Аўстрыі з ахвотай трымаюць чужыя грахі перад вачыма, а свае — за плячыма.

Алесь Кудрыцкі паводле *The New York Review of Books*




# ВЫХОДЗЬЦЕ, КАБ СЬВЕТ ВАС ПАБАЧЫЎ

*Рада Беларускае Народнае Рэспублікі прэзыдыюм*
*Атава, Канада, сакавік 2000г.*

Дарагія Суродзічы.

Зноў надыходзіць нашае вялікае нацыянальнае сьвята, угодкі таго слаўнага дня, 25-га Сакавіка 1918 году, калі беларускі народ пасьля доўгага зьняволеньня абвесьціў сьвету, што ён, так як і іншыя народы, сам хоча вырашаць свой лёс ды быць гаспадаром у сваім доме.

Гэта сталася 82 гады таму, зь якіх 75 былі, магчыма, найбольш страшнымі ў жыцьці нашага народу таму, што мы ня здолелі тады абараніць нашую маладую дзяржаву ад найбольш дзікага ў гісторыі чалавецтва надыходзячага бальшавіцкага тэрору.

Уключыўшы нас у свой Саюз, пераконваючы нас, што мы быццам бы сувэрэнная рэспубліка, нас чужакі нішчылі, зьдзекваліся з нашай гісторыі, нашай мовы, вывозілі ў канцлягеры Сыбіру, каб мы на іх працавалі. Змушалі нашу моладзь аддаваць жыцьцё на карысьць чужой імпэрыі. Угаворвалі нас аднача і ўгаворвалі ўвесь сьвет, што мы ня здольныя даць сабе рады, што нам нібы патрэбны «старэйшы брат». А паколькі народ наш быў поўнасьцю ізаляваны ад рэшты сьвету ды ня ведаў, як жывуць іншыя народы, паверыў акупантам. Паверылі ім таксама і іншыя краіны, бо ж толькі такую інфармацыю атрымоўвалі ад маскоўскіх прапагандыстаў.

У 1991-м годзе Бог нам даў зноў волю. Без праліваньня крыві. Даў як падарунак. Як той Біблейны талент, думаючы, відаць, што мы, народ разумны і працавіты, будзем ведаць, як яго памножыць. На жаль, ня сталася яно так. З дапамогай «старэйшага брата» да ўлады прыйшоў правадыр, адзінай мэтай якога — загнаць народ зноў у няволю.

Дарагія мае суродзічы, нашая бацькаўшчына знаходзіцца цяпер у вялікай небясьпецы. І дзеля гэтага нам усім трэба ўсьведаміць сабе, што мы жыцьцяздольныя, бо ж мы здолелі перажыць цэлае тысячагодзьдзе, ня гледзячы на ўсе беды. Што мы народ разумны і працавіты, і таму ня толькі можам даць сабе рады без «апекі» з Усходу, але здольныя здабыць сабе людзкія ўмовы жыцьця, калі нас пакінуць у спакоі. Што наш край у сапраўднасьці не бяднейшы за Данію ці Швайцарыю. А тое, што ён невялікі, у сьвеце цяпер лічыцца плюсам. Данская каралева Маргарыта ў сваёй нядаўняй прэс-канфэрэнцыі ў Лёндане якраз гэтаму заўдзячыла дабрабыт Даніі.

Дык зь верай у будучыню ня дайма, дарагія суродзічы, чужаком распараджацца нашай доляй. Нелегальны працэс інтэграцыі яшчэ не закончаны. Яшчэ час затрымаць яго. Але для гэтага трэба, каб усе мы «выйшлі шчыльнымі радамі», трэба паказаць сьвету, што мы жывём і хочам жыць. Прашу кожнага, хто называе сябе беларусам, каб паказаў, што ён годны беларусам звацца. Тыя, што на бацькаўшчыне, выходзьце на вуліцы, каб сьвет Вас пабачыў. Тыя, што на чужыне, зрабеце ўсё, што ў Вашых сілах, каб зацікавіць сьвет доляй нашага народу. Каб не дайшло да Чачэніі ў нашай «ціхай і ветлай» Беларусі.

Вітаю Вас з угодкамі абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і жадаю Вам, як і заўсёды, дарагія суродзічы, мужнасьці і нязьвыкласьці ў змаганьні за вольную, незалежную і заможную Беларусь.

Жыве Беларусь!

*Івонка Сурвілла, Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*



## Выстава для ўдзельнікаў сьвята

Творчае супрацоўніцтва паэта Алеся Разанава і мастака Віктара Маркаўца доўжыцца шмат гадоў. Ня раз рабілі яны сумесныя выставы. Цяпер яны рыхтуюць нешта зусім нечаканае і новае. Сваю новую выставу-акцыю «Адваротная сымэтрыя» яны адкрываюць на Дзень Волі 25 сакавіка. Выстава-акцыя пройдзе ў гістарычным цэнтры Менску — у мастакоўскіх майстэрнях, што ў Ракаўскім прадмесьці, на Дзімітрава, 3, якія доўгі час былі натхнёным асяродкам беларушчыны. Але цяпер гэтым майстэрням рэальна пагражае руйнаваньне — «НН» пра гэта пісала.

Асуджаныя ўладамі на небыцьцё майстэрні 25 сакавіка прамовяць выставай адмысловага мастацтва і адбіткамі-ценямі падзеяў. Адкрыцьцё выставы а 14-ай гадзіне.

С.Х.

## Гарадзеншчына 25-га замітынгуе...

У Горадні і райцэнтрах вобласьці падалі заяўкі на мітынгі — у пяці гарадах, і пікеты — у васьмі. У Горадні ўлады мітынг 25 сакавіка дазволілі, але ў іншым, чым хацелася заяўнікам, месцы. Замест Савецкай плошчы давядзецца ісьці ў новы парк да савецкага помніка 875-годзьдзя горада. Там пры канцы мінулага году праводзіліся мітынгі прафсаюзаў і БПСМ.

С.М.

# ПАЎСТАНЕЦ

*У «Анталёгію ўчынку»*

Лявон Плятэр нарадзіўся 15 лютага 1836 году ў Латгальшчыне — гістарычных Інфлянтах — пад Краслаўкай, у шляхецкай сям'і Юзафа і Антаніны Плятэраў. Вучыўся ў хаце, потым у гімназіях Рыгі і Мітавы. Бацька заўчасу памёр, таму юнаку прыйшлося кінуць вучобу і асесьці ў бацькавым маёнтку Казанаве.

Надышоў 1863 год. Паўстала суседняя Літва, паўстаньне мусіла перакінуцца і на Інфлянты. Плятэр прагнуў змагацца за паняволеную бацькаўшчыну. За кароткі час ён сфармаваў з паплечнікаў невялікі загон і далучыўся са сваімі хлапцамі да аддзелаў Жыгімонта Буйніцкага.

Паўстанцам бракавала зброі і грошай, безь якіх посьпех паўстаньня быў немагчымы. 23 сакавіка 1863 г. атрад Буйніцкага напаў на абоз расейскага войска, які кіраваўся са зброяй у Дзьвінск. Здабытае сканфіскавалі, а каб унікнуць пагоні і рэпрэсіяў, атрад падзяліўся на некалькі частак і расьсеяўся ў дзьвінскіх лясах.

Плятэр вёў сваю групу да Дзьвіны, хацеў пераправіцца на левы бок ракі і пайсьці з атрадам у Літву, дзе паўстаньне было больш моцнае. Але літаральна на наступны дзень атрад Плятэра высачылі сяляне-староверы і паведамілі пра яго акупацыйным войскам.

Бой. Параза.

Плятэру ўдалося зьбегчы, але 26 красавіка на чыгуначнай станцыі Дубна яго схапілі і кінулі ў Дзьвінскі астрог.

Буйніцкі быў жанаты і меў дзяцей. Плятэр, у адрозьненьне ад Буйніцкага, ня меў блізкіх. І Плятэр вырашыў ратаваць сябра. Лявон ня ведаў, што Буйніцкаму ўдалося пазьбегнуць арышту і ўцячы за мяжу.

Плятэр узяў усю адказнасьць за напад на расейскі абоз на сябе. Ён «прызнаўся» на сьледстве, што менавіта ён камандаваў нападам.

Кат паўстаньня Міхаіл Мураўёў канчаткова вырашыў лёс Плятэра, літасьціва пагадзіўшыся замяніць шыбеніцу расстрэлам. 9 чэрвеня 1863 г. у бастыёне нумар тры Дзьвінскай крэпасьці прысуд быў выкананы. Было Плятэру 27 гадоў.

Ягонае імя не забылі і перадавалі з вуснаў у вусны, як імя сапраўднага героя. 9 чэрвеня 1923 году ў Дынабургу-Дзьвінску-Даўгаўпілсе, на сумна вядомым бастыёне нумар тры была ўрачыста адчыненая шыльдачка з надпісам: *«Герою Лявону Плятэру, арганізатару паўстаньня на Інфлянтах»*.

Алег Гардзіенка

## каляндар

**22 сакавіка 1925 г.** на ўзросьце 39 гадоў пайшоў з жыцьця Аляксандар Мясьнікоў (Мясьнікян). Армянін, з маладых гадоў у рэвалюцыйным руху, член РСДРП з 1906 г. Меў вышэйшую адукацыю, скончыў Маскоўскі ўнівэрсытэт. У 1914 г. быў мабілізаваны ў царскае войска, апынуўся на Заходнім фронце, дзе ў чыне прапаршчыка разгарнуў актыўную рэвалюцыйную працу сярод салдатаў. Пасьля Кастрычніцкага перавароту Мясьнікоў — камандуючы Заходнім фронтам (цікава, ці ён так і застаўся ў чыне прапаршчыка?). Са студзеня 1918 г. узначаліў Абласны выканаўчы камітэт Заходняй вобласьці і фронту (Аблвыканкамзах) — галоўную бальшавіцкую кіраўнічую структуру на тэрыторыі Беларусі. Паралельна кіраваў Паўночна-Заходнім абласным камітэтам РКП(б)Б. Калі просяць назваць дзясятку найбольш адмоўных пэрсанажаў гісторыі Беларусі, дык звычайна ў яе патрапляе і Мясьнікоў. Фактычна, ён быў ініцыятарам разгону Першага Ўсебеларускага Кангрэсу. Мясьнікоў адмаўляў існаваньне беларусаў як асобнага этнасу. Ён доўга супраціўляўся стварэньню марыянэткавай БССР. Але пад ціскам Сталіна быў вымушаны пагадзіцца і... заняў пасаду старшыні Цэнтральнага выканаўчага камітэту ў рабоча-сялянскім урадзе БССР. Мясьнікоў атрымаў ад сучасьнікаў мянушку — крывавы мясьнік. Але нават у эпоху шушкевіча-кебічавага рысарджымэнта рукі не дайшлі да перайменаваньня менскай вуліцы Мясьнікова ў штосьці больш мілагучнае. З 1921 г. А.Мясьнікоў змагаўся з ворагамі савецкай улады ў Закаўказьзі, загінуў у авіяцыйнай катастрофе. Быў аўтарам манаграфіяў па гісторыі армянскай літаратуры.



**У той самы дзень** не стае Саламона Магілеўскага, удзельніка рэвалюцыйнага руху ў Беларусі. Пасьля Кастрычніцкага перавароту плённа працаваў у органах ВЧК і рэўтрыбуналу. Як тады працавалі чэкісты, добра вядома. У 1919 г. месцам расстрэлаў жыхароў Менску было Камароўскае балота, таму ня выключана, што мы, наведваючы Камароўскі рынак, ходзім па людзкіх костках. З 1922 г. С.Магілеўскі быў пераведзены на чэкісцкую працу ў Закаўказьзе. Паводле энцыкляпэдыяў Саламон Магілеўскі загінуў у той самы дзень, што і Аляксандар Мясьнікоў. Загінуў таксама ў авіяцыйнай катастрофе. Ці не адным самалётам яны ляцелі?

**23 сакавіка 1900 г.** нарадзіўся нямецкі філёзаф Эрых Фром, сацыёляг і псыхоляг, прадстаўнік нэафрайдызму. З 1929 па 1933 г. ён працаваў у Інстытуце сацыяльных дасьледаваньняў, што ў Франкфурце, дзе склалася слаўтая франкфурцкая школа. Фром правёў сацыялягічны аналіз падсьвядомых матывацыяў паводзінаў сяррод нямецкай інтэлігенцыі і рабочых. Фром сьцьвярджаў, што людзі падзяляюцца на дзьве групы: тых, хто схільны да сваволі, і тых, хто хоча быць падпарадкаваны. Пасьля прыходу да ўлады Гітлера Эрых Фром, справядліва непакоячыся за ўласнае жыцьцё, пакідае Нямеччыну і пераяжджае ў ЗША, дзе працягвае навуковую дзейнасьць.



Эрых Фром

**25 сакавіка 1950 г.** пад час сьвяткаваньня Дня Волі ў аўстралійскім Сыднэі заснаўваецца Беларускае Аб'яднаньне штату Новы Паўднёвы Ўэльс. Арганізацыю ўзначаліў Уладзімер Клуніцкі. Хутка Клуніцкі быў адхілены, і ягонае месца заняў Міхась Зуй, будучы прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады. Беларускае Аб'яднаньне здолела згуртаваць расьцярушаных па гэтым штаце беларусаў у адно цэлае. Здавалася, што аўстралійскім эмігрантам найменш уласьцівы палітычны разлад і размежаваньне на прыхільнікаў Рады БНР і Беларускай Цэнтральнай Рады. Але такая доля не мінула і аўстралійцаў. Хутка пасьлядоўнікі Міколы Абрамчыка і Рады БНР стварылі сваю арганізацыю.

**Каля 1625 г.** у вёсцы Старынкі, што на Меншчыне, нарадзіўся Казімір Крыштаф Клакоцкі. Вучыўся ў Арлеанскай акадэміі, у 1665 г. у Слуцку заснаваў друкарню для мясцовых кальвіністаў, на ўласныя грошы набыў неабходнае абсталяваньне і пачаў друкаваньне кніг. Надрукаваў як мінімум 29 выданьняў рэлігійнае літаратуры, лемантароў, календароў. Казімір Клакоцкі на працягу доўгіх гадоў зьбіраў уласную бібліятэку, для якой выпісваў кнігі з Гданьску, Кёнігсбэргу. Скупіў кнігазборы некаторых памерлых арыянаў. Дзе цяпер ягоная бібліятэка? Рукапісы знаходзяцца ў Варшаўскім Галоўным архіве старажытных актаў. А кнігі?

**У 1975 г.** на ўручэньні прэміі Оскар лепшым фільмам вызначаецца «Нехта праляцеў над гняздом зязюлі» Мілаша Формана, паводле аднайменнага раману амэрыканскага пісьменьніка Кена Кізі — трагіфарс пра бунт супраць прыніжэньня чалавечай годнасьці ў псыхіятрычнай лякарні. Беларусы ж, як тыя зязюлі, пралятаюць пакуль міма Оскара.

А.Г.


**ФЭСТЫВАЛЬ СУЧАСНАЙ МУЗЫКІ «ПОЗІРК У XXI СТАГОДЗЬДЗЕ» КАНЦЭРТ ЭЛЕКТРААКУСТЫЧНАЙ МУЗЫКІ**

У праграме фэстывалю:

**25 САКАВІКА**

**10.00** — Лекцыя-майстар-кляса прафэсара Кракаўскай Акадэміі Музыкі Марэка Халанеўскага «Інтэрактыўныя кампутарныя сыстэмы».
Беларуская акадэмія музыкі (вул. Інтэрнацыянальная 30).

**12.00** — Творчая сустрэча з кампазытарам Магдаленай Длугаш (Кракаў, Польшча).
Заля Беларускага саюзу кампазытараў (пл.Свабоды 5).

**17.00** — Канцэрт электраакустычнай музыкі твораў беларускіх кампазытараў.
Заля Беларускага саюзу кампазытараў (пл.Свабоды 5).

**26 САКАВІКА**

**18.00** — Канцэрт студыі электраакустычнай музыкі Кракаўскай Акадэміі Музыкі.
Заля Палацу мастацтваў (вул. Казлова 3).

*Дадатковую інфармацыю пра ўдзельнікаў фэстывалю можна атрымаць у Менску па тэл.: 220-63-78, 220-95-81, факс: 220-48-74.*

## Савецкая спадчына

Безумоўна, спадарыня Жук-Грышкевіч, вы маеце рацыю ў тым, што датычыць часоў заснаваньня БССР на руінах БНР. Аднак, мне здаецца, што ў тыя часы мы наўрад ці маглі захаваць сваю Незалежнасьць, улічваючы нашае вечнае знаходжаньне паміж двух агнёў, паміж Польшчай і Расеяй. Зрэшты, мы й выжылі як нацыя толькі дзякуючы сталаму балянсаваньню паміж Усходам ды Захадам. Хоць гучыць гэта й трагічна. Вы, мабыць, скажаце, што й непатрыятычна, але ў нас тады не было іншае пэрспэктывы, акрамя як стацца «ўсходнімі крэсамі» альбо часткаю «страны саветаў».

На жаль, БНР была занадта слабою, каб узяць сытуацыю ў краіне пад свой кантроль, навесьці парадак ды разабрацца з бандамі розных анархістаў.

Камунізм ня мае нацыянальнасьці! Ад яго пацярпелі тыя самыя расейцы: з былое Расейскае імпэрыі пасьля рэвалюцыі эміграваў мільён чалавек, і не абы-хто, а інтэлігэнцыя ды арыстакратыя. Хоць нельга, канечне, параўнаць іх беды з нашымі...

Важней ня тое, як мы СТАЛІСЯ часткаю СССР, а тое, як мы БЫЛІ яго часткаю. На абаронных прадпрыемствах, у НДІ, арміі, КПСС, у тым жа КГБ працавалі тысячы нашых суайчыньнікаў. Канструктар Сухой, генэрал Жукаў, касманаўт Гагарын (абодва апошнія – смаленчукі), дыплямат Грамыка і тузіны іншых беларусаў ці людзей беларускага паходжаньня працавалі на СССР і на Беларусь у тым ліку. Натуральна, шмат было сярод тых людзей «янычараў», якія ўжо ня памяталі сваіх каранёў і самі бралі ўдзел у зьнішчэньні Беларусі. Аднак усё ж у іх жылах цякла беларуская кроў! Калі ж мы адмовімся ад савецкае спадчыны, мы адмовімся і ад некалькіх пакаленьняў нашых продкаў і іхнага даробку. І атрымаецца, што дарма яны заваёўвалі космас, дарма далі Беларусі такі эканамічны патэнцыял, што зараз мы МАГЛІ Б жыць ня горш за Чэхію (гэх!), дарма гінулі ў вайне, дарма...

Ніхто з сучасных нацыяналістаў не заклікае адмаўляцца ад спадчыны Рэчы Паспалітае, хоць далёка ня ўсе ўхваляюць тую унію з Польшчай. У тыя часы нацыянальная эліта была на 100% спалянізаваная, па-беларуску размаўлялі толькі ў вёсцы, таму й сталася наша мова мужыцкаю. І тады было шмат «янычараў», і той жа Касьцюшка ў дачыненьні да палякаў казаў «мы». Аднак, ніхто яго ня сьмее назваць небеларусам.

Цяпер мы ўсе знаходзімся ў пэрыядзе пэўнае псыхалягічнае гістарычнае інэрцыі, бо мы адносна нядаўна адваявалі Незалежнасьць і ўсё яшчэ злуем на расейцаў і ўвесь савецкі час наагул. Так мы ненавідзелі палякаў за польскім часам, што многія з нас наадварот хацелі ў склад Расеі. Так некаторыя з нас зараз хочуць у склад Польшчы ці назад у Рэч Паспалітую (пачытайце бясплатныя аб'явы на апошняй старонцы «НН»). Але з часам, хоць, з-за палітыкі нашай сёньняшняй улады, напэўна, пазьней, чым дзе інш, калі зьменяцца генэрацыі, нашыя нашчадкі ня будуць мець пэрсанальнае крыўды на СССР. У памяці людзей, як гэта бывае і з кожным з нас, застанецца толькі пазытыўнае. І праз 50 гадоў у бясплатных аб'явах «НН» мы мо прачытаем «Няхай жыве СССР»...

Барталямэюш Гарбач, <harbac@hotmail.com>

## Абарыгенская наіўнасьць

Уладзімер Крукоўскі ў сваёй публікацыі «Тысяча плюс дванццаць» («Нашай Ніве» ад 21 лютага, трапна згадаўшы пра маю ролі ў нашумелым некалі скандале з паштоўкаю Яўгена Куліка, выпушчанай ім пад тысячагодзьдзе Беларусі — дванццаць гадоў таму. Так, гэта я завёз паштоўку ў Лёндан, палічыўшы прыемным сувэнірам тамачным беларускім сябрам. Мне і не падумалася тады, што яны схопяцца за яе, бы за нейкі меч супроць бальшавікоў... Нават яе публікацыя не была б драмаю аўтару, калі б ня той няшчасны надрук на адваротцы: «Тайнае юбілейнае выданьне з БССР». Гэта мусіла зьвярнуць увагу менавіта тайных службаў каляніяльнай адміністрацыі Беларускай ССР!

Брутальная праўда такая: Яўгена Куліка падвялі такім чынам пад удар. Незнарок зробілі падарунак апарату КГБ, які, магчыма, пачынаў мець праблемы з вышукам работы сабе... Нацыянальны рух быў жа затаптаны. Пакуль што ніхто з тых лейтэнантаў ці маёраў, ратуючы свае пасады, не дадумаўся ўваскрашаць сабе штучных ворагаў кшталтам энкавэдоўскага Саюзу Вызваленьня Беларусі...

Інцыдэнт, калі ня большае што, з паштоўкаю Куліка сьведчыць аб тым, як дыяспара не разумее Маці-Айчыны. Такое тайнае выданьне эмігрантам — гэта ім падтрыманьне духу, кажучы па вялікім рахунку. І няхай. Але нашто было дражніць КГБ, рассылаючы той друк у пісьмах у Беларускую ССР?! Мой здогад наступны: нават той жа надрук, але без таго кальпартажу ў лапы савецкай пошты, таксама застаўся б па-за ўвагаю «органаў». Ды не, заманулася падражніць іх, бы сабачку на чужым падворку! Чаму не, і тое можна, але каб ніхто на тым не пацярпеў, тым болей такі выдатны чалавек.

Немаральны гэта быў учынак. Тое па сёньня на маім сумленьні. Я і цяпер ня змог бы адкрыта глядзець у вочы Яўгену Куліку і яго сябрыне. Сорам і ганьба!

Як мы змагаемся з каляніяльным рэжымам?! Ён жа нас, беларусаў, лічыць круглымі дурнямі і, што найгоршае, мае рацыю. Мы ўсё жабруем — каб хоць кавалачак уратаваць беларушчыны з-пад расейскіх «сапогов». І нам ласкава гэта дазваляюць, маючы ад таго такую карысьць, што цяжка папракаць іх у антыбеларускасьці («Ведь мы не против, всё происходит по воле народа»). Беларускую культуру і беларускіх пісьменьнікаў заганяюць у музэі, там іх, як быццам, натуральнае ўжо месца. Крый Божа не ва ўнівэрсытэтах ці ў іншай шматлюднай публічнасьці. Цуд, што яшчэ выходзіць «Наша Ніва» як нешта маштабнае, не загнанае ў куток.

Каленіяльна тлумна перажываем псыхадраму: мэтраполія завалілася, і мус быць незалежным. І будзе, бо гэта вырак Гісторыі. Але колькі сьлёзаў праліецца на такую несправядлівасьць, пакінутасьць... Беларускую мову зводзяць да паказухі ў сябе і да «мовы дывэрсіі» дыпламатаў, што кантактуюць з дыяспарай, — тыпова савецкая дурата. Эмігрантаў часта падчэпліваюць на гэту вудачку, бы акуня якога, і яны злосна трапешчуцца, даючы поўху ў дыхавіну, напрыклад, кідаючыся Яўгенам Кулікоўм, бо ж нічым іншым.

Сакрат Яновіч, Крынкі пад Беластокам

## Жэнэўскі сьлед

У артыкуле «Тысяча плюс дванццаць» (№8, 21 лютага) аўтар Уладзімер Крукоўскі ўзгадвае паштоўкі з нагоды 1000-годзьдзя Беларусі, намаляваныя Яўгенам Куліком і Міколам Купавам. Аўтар піша, што яны былі выдадзеныя таксама ў Лёндане і папалі туды (на здагадку Ул.Крукоўскага) праз Сакрата Яновіча. Ад айца Аляксандра Надсана мне давялося пачуць іншыя падрабязнасьці, якія, думаю, будуць цікавыя. Са словаў а. А.Надсана, у 1980 г., яшчэ да той сьнежаньскай вечарыны ў Менску, ён прывёз з Жэнэвы чырвоную паштоўку з Пагоняй і віншавальным надпісам (рэпрадукцыю той паштоўкі «НН» і надрукавала). Па дарозе да Лёндану ён сустрэўся ў Парыжы зь беларускім мастаком Міколам Паўлоўскім, які ў свой час папрасіў прытулку на Захадзе. М.Паўлоўскі ўпэўнена сказаў, што рука — Купавы. Пры садзеяньні Згуртаваньня беларусаў Вялікай Брытаніі (ЗБВБ) тая паштоўка была перадрукаваная ў Лёндане. Потым нашыя эмігранты шмат каму дасылалі іх звычайнай поштай як віншаваньне. Некаторыя нават даходзілі да адрасатаў, а іншыя сталі галаўным болем КГБ. Крыху пазьней тым жа шляхам у Лёндан папала і паштоўка Я.Куліка: белая з срэбнай Пагоняй, іншага фармату, чым паштоўка М.Купавы. Перадрукавалі ў Лёндане і яе. Па словах а. Надсана, праз Жэнэву (пра імёны, ён палічыў, гаварыць яшчэ зарана) ў канцы 70—80-х гадоў былі атрыманыя тэксты «Роднай мовы» Алега Бембеля, «Письма к русскому другу» Аляксея Каўкі, «Сказ пра Лысую гару», а таксама лісты беларускай інтэлігенцыі да Гарбачова. У Лёндане яны (акрамя «Сказу пра Лысую гару», які аддалі публікаваць у ЗША) выходзілі друкам, у т.л. лісты інтэлігенцыі й «Пісьмо» Каўкі — зь перакладам на ангельскую мову.

Алесь Нешчарда, Лёндан

## Мы здаліся, і вы здасцёся

Прачытаў («НН» № 10, 6 сакавіка) артыкул Сяргея Астраўцова «Чырыканьні ў эфіры». Жыву я ў Берасьці і таксама маю магчымасьць прымаць FM-станцыі Польшчы: RMF FM, 8-ю праграму і г.д. Ёсьць у нашым эфіры і «Рокс», і «Сталіца FM», і «Бі-эй». Як прачытаў з артыкулу, у Горадні таксама зьявілася гэтае «Бі-эй». С.Астраўцоў піша, што «Бі-эй» слухаюць некаторыя навучэнцы ПТВ, шафёры грузавікоў і прапаршчыкі памежных войскаў». Аднак пройдзе некаторы час, і «Бі-эй» пачнуць слухаць у Горадні ўсе, каму «не западло».

Гэткае здарылася ў Берасьці, спачатку народ слухаў RMF, потым, са зьяўленьнем «Рокс», народ перамясьціўся на яго. Аднойчы я прачнуўся і, уключыўшы прыймач, наладзіў прамаскоўскае «Бі-эй». Такое ж здарылася з усім «людам Берасьцейскім». І цяпер, каго ні спаткаеш, усе слухаюць выключна «Бі-эй», бо музыка там «наша, руская» і бо «фармат «Бі-эй» у трыста разоў лепшы» за «Рокс», ня кажучы ўжо пра расейска-беларускую «Сталіцу».

Так лічаць нават тыя, хто ня мае свайго ўласнага прыймача, аднойчы пачуўшы «Бі-эй» у краме ці дзе яшчэ.

У гэтым канктэксьце цікавае становішча беларускага року. Бывае, што ўключыць «Краму» С.Прохараў на «Роксе» ці пачуеш нейкі «band» па «Сталіцы», аднойчы ўключыўшы прыймач. Было нават такое, што напярэдадні «Рок-каранацыі» зацяты вораг беларускага року сп.Пратасаў запрасіў гурт «NRM» да сябе на эфір «Нового вторжения» на «Бі-эй». Во як бывае!

Трэба яшчэ сказаць пра радыёстанцыі «без цэнзуры», якія працуюць на кароткіх ці сярэдніх хвалях.

«Рацыя» — радыё даволі добрае, маючы ўсяго гадзіну эфіру, уключае розныя кампазыцыі ад «NRM» да «Песьняроў», ад «Троіцы» да аўтэнтычнага фольку, без сучаснага афармленьня. Цікавыя перадачы Ўл.Арлова, В.Бабак і г.д. Трэба сказаць, «Рацыя» можа вельмі добра разьвівацца. «Свабода» – радыё, арыентаванае апошнім часам усё больш на палітыку, закрываюцца культурныя перадачы (напрыклад, «Беларускія раздарожжы»), – ня хоча пускаць у эфір беларускай музыкі, мяркую, «музыка на кароткіх хвалях гучыць нейк няякасна», але, параўнаўшы эфір (якасьць прыёму) «Свабоды» і «Рацыі», напрошваюцца іншыя вывады...

«Polonia» — радыё, якое я проста не магу слухаць, беларуская мова з вуснаў радыёвяшчалаў-вядучых даносіцца проста спалячанай, зьнявечанай.

Пра «Балтыйскія хвалі» казаць ня буду, віленскі рэтрансьлятар (612 kHz) тут амаль што не чуваць. Адным словам, з нармалёвымі радыёстанцыямі ў нас пакуль праблема.

А.С., Берасьце

## «Ваймаца»

Газэта падабаецца. Шмат чаго можна прачытаць і даведацца. Правапіс падыходзіць да мілагучнасьці нашай звонкай мовы. Ёсьць словы, што я іх спатыкаю першы раз, іхнага значэньня ня ведаю, але гэта малая бяда. Бо, як мяне маці вучыла хрысьціцца і казала «Ваймаца», я дапытваўся, што гэтае слова азначае. Маці казала — маўчы, не дапытвайся, а гавары за мною. Пазьней, як навучыўся чытаць і пайшоў у школу на Закон Божы, дык даведаўся, што «Ваймаца» гэта ёсьць не адно слова, а гэта «У імя Айца». Прыйшлося многа чаго даведацца, значэньне і сэнс словаў іншамоўных, нават расейскія словы. Нашы беларусы іх разумеюць інакш, як слова, якое мае значэньне ў расейскіх людзей. Слова «грозны», яно ў беларускай мове гучыць, як быццам бы «на цябе пасварутся», а ў сапраўднасьці гэта «жах, жахлівы, жудасны». Слова «крэсьцянін» лічаць як беларускае «хрысьціянін», а не як «селянін», і гэтак шмат слоў вядзе да непаразуменьняў. Слова «праздны» лічаць не як «пусты», але як сьвята. Вось мае заўвагі.

К.Верабей, Фармінгдэл, ЗША

## Кніга Фаменкі

Гэты допіс раблю з нагоды артыкулу Ўл.Крукоўскага «Qui prodest? Загадка Радзівілаўскага летапісу» («НН», №10).

Я чакаў шмат часу. Чакаў артыкулу, які хоць трошкі, павярхоўна, закране тую мітычную зьяву (прабачце, навуку), якая мае назву «Гісторыя Беларусі». І якраз тым поглядам, зь якім яшчэ можна дайсьці да ісьціны. Але ў лісьце амаль немагчыма ні расказаць нешта грунтоўна, ні, тым болей, немагчыма лістом зьмяніць погляды чытача. Таму я хачу прывесьці назву адной кнігі. Кнігі маскальскай. Ад гэтага ня менш дасканалай і прывабнай. Мабыць, вы чулі ўжо пра прафэсара МДУ А.Фаменку? Матэматык, які прафэсійным поглядам зірнуў на гісторыю сьвету. Так, там дасканала разважаюць, што такое Радзівілаўскі летапіс. І, вядома, яшчэ шмат пра што. І Літва (летапісная) не абыдзена ўвагай. Прачытайце, не пашкадуеце.

*Г.В.Носовский, А.Т.-Фоменко. «Русь и Рим. Правильно ли мы понимаем историю Европы и Азии?». У 2 кн. — Масква: ААТ «Фирма «Издательство АСТ», 1999.*

Яна маецца ў продажу ў кнігарні паліграфкамбінату імя Якуба Коласа на вуліцы В.Харужай, 2 (ці 4).

М.Шыбека, Менск

## Мужчыны — не пачвары

Пару словаў пра артыкул Сьвятланы Курс «Herstory замест History», зьмешчаны ў нумары 10 за 6 сакавіка. Навошта гэтак катэгарычна абвяшчаць «Herstory замест History»? Незразумела, да якога раўнапраўя імкнецца аўтарка? Бо гэтак атрымаецца, што ўжо мужчыны павінны будуць пачаць «бараць-бу за свае правы», калі фэміністкі пачнуць пісаць собскую гісторыю на мужчынскіх касьцях.

Згодны, што «палову хатняе працы павінны ўзяць на сябе мужчыны і разгрузіць жанчыну для грамадзкага раскрыцьця», але ж з вашых далейшых словаў увогуле вынікае, што патрэбна ўсё зваліць на плечы мужыкоў ці, наадварот, адмовіцца ад кар'еры. А ці нельга сумясьціць кар'еру зь сям'ёй? Ці гэткія ўжо пачвары — мужчыны, што трэба іх браць пад ногі?

Навошта падзяляць культурныя, навуковы здабытак, скарб па полавай прыкмеце? Стварайце, жанчыны, дасьледуйце. Дастаткова, мусіць, прыгадаць Натальлю Арсеньневу, Марыю Складоўскую-Кюры, Ларысу Геніюш. Але ці адны толькі мужчыны зрабілі Чарнобыль «пры вашым маўклівым дазволе»? Навошта падзяляць дасягненьні й творы на «мужчынскія» і «жаночыя»? Ці не нясуць у сабе яны ўнівэрсальную мэту стваральніка — адчыніць нам кавалачак собскае душы, што ня мае полу?

Можаце спрачацца пра сутнасьць паняцьця «жаноцкасьць», але яно ёсьць зброяй жанчыны. У мужчыны ж яго няма.

Вам вельмі падабаецца нэгатыў, але акрамя алькаголікаў і тыранаў сярод мужчынаў бываюць «шляхетныя рыцары сваёй дамы». І не заўсёды кар'ерыстка «старая панна», бо ў шмат каго з «кар'ерыстак» маецца й хатнія гаспадаркі, і муж зь дзецьмі. Ня трэба вылучаць сябе з чалавецтва як асобнае адгаліnаваньне. Бо толькі разам мужчына і жанчына ствараюць чалавецтва. А то, вы гатовыя заўтра перастраляць мужскую палову сьвету. Ня трэба.

Будзьма разам без аніякіх полавых перашкодаў!

Сяржук Пруднікаў, Берасьце

Вячаслаў ДУБІНКА

# ДЗЁНЬНІК ЗАХАПЛЕНЬНЯ

**НА ПЛЯЖЫ КУРОРТНАЙ МЯСЬЦІНЫ ПІНЭДА ДЭ МАР** у залацісты жвір урос помнік Грамадзянскай вайны 1936—1939 гадоў — бэтонны даўбель-дзот з чорнай адтулінай для кулямёта. У Слуцку маім праз некалькі хатаў ад нашай жыў дзядок Сева па прозьвішчы Баранчык. У 1936 годзе ён патрапіў у Гішпанію і стаў ужо не Баранчык, а Пэдра. І на загад камандзіра сядзеў у такім вось бэтонным мяшку і малаціў з кулямёта па фалянгістах-ворагах ня толькі новай Гішпаніі, але і краіны Саветаў. Франка са сваімі жаўнерамі выкурыў Пэдра-Баранчыка, і той да скону хадзіў з кульбай: горкі ўспамін пра Гішпанію.

**КНІГАРНЯ Ў БАРСЭЛЁНЕ.** Адчыніш шкляныя дзьверы і патрапляеш у райскі кут друкаванага слова. Чаго толькі тут ні знойдзеш на паліцах. Калі ласка, таўстуны-кніжкі пра Іосіфа Сталіна, Льва Троцкага, мапы ўсіх куткоў сьвету. І раптам спыняюся каля вітрыны, ня верачы сваім вачам. Раман Дастаеўскага «Браты Карамазавы». На вокладцы і аўтар «братоў» — Тарас Шаўчэнка, яго знакаміты аўтапартрэт. Такія вось браты ад прыгожага пісьменства — Тарас і Хведар сустрэліся ў раі друкаванага слова.

**ЖАБРАКІ Ў БАРСЭЛЁНЕ.** Культурныя, вынаходлівыя, далікатныя, калі хочаце. Сам сядзіць на зэдлічку, а побач на самаробным дыванку — сабачка. Гаспадар нешта піша, альбо малюе, як бы нічога ня просіць. А навошта? Побач шыльдачка з надпісам на ангельскай, францускай, нямецкай. Зьмест такі: «У мяне часовыя фінансавыя цяжкасьці і няма чым карміць сабачку». Па-расейску абвесткі няма. Расейцы гішпанскім сабакам не даюць, сваіх дома ня кормленых, што гразі ў полі.

**ХАМОНЫ** — па-нашаму кумпякі, сьцегнякі ад вепрука. У Гішпаніі яны красуюцца ў кожным кутку, дзе прадаецца харч. Палюбавацца ёсьць на што. Каштуюць нятанна. А некалі і ў нас такіх кумпячкоў было — не палічыць. У камандзіроўках на Клеччыне, Капыльшчыне, Случчыне бачыў апэтытныя беларускія кумпячкі, прычэпленыя пад страхой, яны дабіралі смак на лагодным красавіцкім ветрыку.

**ПАЛІЦЫЯНТЫ** прыгожыя, у белых пальчатках, адпрасаванай форме, хоць здымай іх на вокладку часопіса. І прыгадаліся свае, эрбэкаўскія. У балотна-жабінай камуфляжцы, як пасьля адсідкі ў акопнай аблозе, неахайныя, нахабныя, у цяжкіх каваных ботах, з гумавымі даўбешкамі, з наручнікамі за папругай, калікалі з абшарпанымі аўтаматамі.

**НА ПЛЯЖЫ** зь першым сонейкам бавілася купка вясёлых гішпанскіх пэнсіянэраў — пяць бабуляў і дзед. Яны даўно праядаюць пэнсію, а таму вясёлыя, гарэзьлівыя, што малыя дзеці. То сьпяваюць, то весела плёхаюцца ў моры. І безупынна балабоняць. — Пра што іх клопат? — пытаюся ў дачкі Вольгі, яна разумее па-гішпанску.

— Купіла бабка дужа модную кофту і другі дзень не нахваліцца. Цяпер плянуе, куды падацца, каб набыць да кофты модную спадніцу.

От, мой Божа. Уявіліся нашы бабы каля крытага будану Камароўкі. Зь мяшэчкамі на продаж, з пляшкамі гарэлкі і піва. Або яшчэ наш успамін. Аўтабудан пад нумарам 19 набраў у свой брудны абшарпаны салён-катух поўна баб, і ўсе, як адна, шчасьлівыя. Пашанцавала! Набралі аж па два дзясяткі «чалавечаскіх яіц» у краме на плошчы Перамогі.

**МОСТ ЦЕРАЗ РАКУ.** Шасэйка запрашае ў горад Фігейрас — радзіму вядомага мастака Сальвадора Далі. Відок на малюнак просіцца. Ці ня гэты масток хацеў пакласьці на дно ракі Кірыла Арлоўскі? Пад час свайго рэпарцёрства я патрапіў на сустрэчу зь вядомым старшынём калгасу, што на Магілёўшчыне. Кірыла Пракопавіч браў актыўны ўдзел у тых падзеях у Гішпаніі 1936—1937 г. Адчайны дывэрсант, рваў масты, што дровы калоў на падворку.

— Што вам найбольш прыгадваецца, калі пра Гішпанію гаворка заходзіць, — запыталася карэспандэнтка ў Арлоўскага.

— Заклаў, ліха на яго, узрывучатку, усё як мае быць, мост павінен быў легчы на дно ракі, як міленькі. А ён, зараза, стаіць, не варухнуўшыся. Дараваць сабе не магу.

Два гады быў у Гішпаніі, і адзінае, што вывез адтуль, гэта шкадобу пра тое, што мост ня лёг на дно ракі.

**ФЭРМЭРСКІЯ ПАЛЕТКІ Ў ГІШПАНІІ.** Што намаляваныя, вачэй не адарваць. Чырвоныя памідоры, экзатычныя плады, аліўкавыя дрэвы. Руплівая мазольная праца да сёмага поту. Як там сьпявалася ў той песьні, што напісаў Сьвятлоў: «каб зямлю ў Гранадзе сялянам аддаць». Ведаем, як гэта рабілася ў гады калектывізацыі.

**СУПЭРМАРКЕТЫ.** У Гішпаніі яны як і ў нас, толькі нашмат багацейшыя, чысьцейшыя і таньнейшыя. Рот бы ўсё забраў, ды кішэня плача... Тавары з усяго сьвету. І кітайцам ёсьць чым пахваліцца, і японцам ня сорамна, і немцу гонарна. А з усяго СНГ толькі адна гарэлка «маскоўская» на пяць даляраў за шкляное рыла (і тая разьліваецца ў Польшчы).

**НАЖЫ Ў ГІШПАНІІ.** Колькі ні вандраваў у іншых краінах, але толькі ў Гішпаніі напаткаў багатыя крамы, дзе гандлююць выключна халоднай зброяй. Не адарваць вачэй ад вітрынаў. Тут і кінжалы, мячы старажытных рыцараў, нажы-складанчыкі, срэбраныя і залачоныя. І фінскія з доўгім лязом, і паляўнічыя, нажы-запальнічкі, нажы-самапіскі, нажы вяроў усіх краінаў Эўропы. Чаму ж такі вольны продаж? Спакойны, не агрэсіўны народ? У Гішпаніі ганарацца горадам слынных майстроў — Таледа, як арабы сваім Дамаскам.



Фота Алены Адамчык

Сядзяць двое на зэдліку, чакаюць электрычку. Лускаюць семкі, шалупіньне пад ногі. Так захапіліся, што аплявалі і абутак. Па красоўках і па гаворцы пазнаю, што гэта турысты з абшараў СНГ.

— Прывет, рэбята, аткуда?

— Из Перми мы, — адказваюць радасна.

Што і казаць, пярмяк – ён і ў Гішпаніі пярмяк.

На гасьцінах добра, але й пара дахаты.

**АЭРАПОРТ У БАРСЭЛЁНЕ** і сапраўды, мабыць, найлепшы ў сьвеце. І сьвяточна апрануты ў сонечныя карункі аддзелачных матэрыялаў, і зручны. Служывыя людзі ветлівыя, прыгожыя, з усьмешкамі на тварах. Гішпанію ў мінулым годзе наведала аж восемдзесят мільёнаў! Даход ад турызму ў Гішпаніі ў пяць разоў больш, чым гадавы бюджэт ганарлівай і пыхлівай Расеі.

**САМАЛЁТ СЯДАЕ** на роднае бэтоннае поле. У Менску таўкатня, вэрхал. Служывы доўга корпаецца ў маіх паперах, насьцярожана вывучае тваю фізію, зьвяраючы фотку на дакумэнце з «арыгіналам», які прыляцеў вунь адкуль. А потым вайсковец некуды прападае і зьяўляецца праз пяць хвілін, строга перапытвае, як на допыце, дзе быў, куды едзеш. А пасьля новы накапіцель, дзе бяруцца за справу мытнікі, ператрасаючы ҳатулі, хаця б ты не прывёз лішнюю пляшку шампані ці таннага віна, якое ў нас каштуе столькі ж, як пляшка гарэлкі маскоўскай у Барсэлёне. Яно і праўда, у гасьцях добра, а дома лепей.

Фота Алены Адамчык

# ЛІТАРЫ НА МУРАХ



Палеаліт. Каменная пячора. Мурзатае дзіцяня выцягвае з вогнішча вугельчык ды крэмзае на сьцяне жытла выяву маманта. Шкодніка, вядома, пакараюць за псаваньне гранітных «шпалераў», але факт застаецца фактам: у сьвеце зьявілася першае графіці.

*Grapho* па-грэцку значыць «пішу». Сьцены старажытнага Рыму ды іншых гарадоў імпэрыі былі спрэс пакрытыя надпісамі, якія пасьля дапамагуць лінгвістам дасьледаваць «вульгарную» гутарковую лаціну.

Графіці — гэта перадусім слова, а не малюнак. Амэрыканскія графітысты называюць сябе *writers* — пісьменьнікамі. Па сваёй сутнасьці, графіці нечым падобнае да рэклямнага шчыта. Але ня кожны надпіс добрыя знаўцы гэтага вулічнага мастацтва прызнаюць за сапраўднае графіці. Тыя незразумелыя, зробленыя тлустым маркерам каракулі-значкі, што мы бачым на вуліцах Менску, гэта не графіці, а толькі «ярлыкі». Іх робяць лайдакі ці пачаткоўцы, якія сьпісваюць усё навокал сваім імем ці псэўданімам. Больш сталыя графітысты вялікую ўвагу надаюць у першую чаргу стылю свайго твору.

Ці можна назваць графіці творам? Замежнікі скажуць, што надпісы на сьценах выклікаюць пачуцьцё трывогі: «за кардонам» звыкліся, што графіці найчасьцей зьяўляюцца ў небясьпечных раёнах.



Менчукоў графіці не пужаюць, а цікавяць. Тутэйшыя бандыты сваю тэрыторыю надпісамі адзначаюць рэдка, а таму беларускія графіці — гэта ці сродак выказваньня думкі, ці твор мастацтва, ці звычайнае шкодніцтва, а часьцей — усё разам.

Графітысты звычайна выходзяць на справу ноччу. Дома робіцца невялікі накід на паперчыне, каб потым перанесьці задуму на сьцяну. Графітысты самі робяць адмысловыя насадкі на балёнчыкі з фарбай, каб атрымлівалі рысы рознай шырыні ды зрабіць адметным свой стыль. Графітыст апранае маску, але не для таго, каб застацца інкогніта: выпарэньні фарбы здароўя зусім не дадаюць. Ходзяць показкі, што некаторыя асабліва апантаныя «пісакі», чысьцячы пасьля працы нос, не заўважаюць у насоўцы нічога, акрамя нітраэмалі.



Дзяржава ня любіць графіці — іх колеры псуюць звыклы выгляд гарадоў, а зьмест — нэрвы кіраўнікоў. Графітысты ня любяць дзяржавы, але яшчэ больш — пустых сьценаў. Процістаяньне ў Беларусі часам выліваецца ў сапраўдную камэдыю, калі ўлады дзеля эканоміі грошай загадваюць замаляваць ня ўвесь надпіс, а толькі замазаць ягоныя абрысы, так што літары не зьнікаюць, але становяцца шматкроць тлусьцейшыя ды заўважнейшыя.

Намаляваць свае графіці паверх твору іншага калегі — найгоршая абраза ў асяродзьдзі графітыстаў. Гэта, аднак, у Менску здараецца нячаста: чыстых муроў яшчэ не бракуе. Шкада толькі, што замест таго, каб крыўдзіць адзін аднога, «пісьменьнікі» абражаюць сваё роднае места. У графіці, вядома, ёсьць свая эстэтыка, але вось з асяродзьдзем Верхняга гораду яна спалучаецца ня вельмі ўдала. Між тым, знаходзяцца людзі, што замалёўваюць муры гэтых старавечных камяніцаў.

Алесь Кудрыцкі. Здымкі аўтара

## Псальмы Рыгоравы

Паэт Рыгор Барадулін і бард Алесь Камоцкі запісалі на студыі «Каўчэг» супольны кампакт-дыск «Псальмы». Кружэлка зьмяшчае каля 20 апрацаваных Барадуліным біблейскіх псальмоў цара Давіда, а пачынаецца дыск зь вершаванай малітвы «Ойча наш...», якую пераклаў і чытае сам паэт. Вокладку дыску аздабляе рэпрадукцыя карціны «Анёл» дачкі Барадуліна, Ілоны.

## Юбілей Чорнага

Дзяржаўны музэй гісторыі беларускай літаратуры наладзіў выставу і канфэрэнцыю з нагоды 100-гадовага юбілею Кузьмы Чорнага. У канфэрэнцыі ўзялі ўдзел 35 школьнікаў зь Менскага раёну, якія дасьледуюць творчасьць Чорнага, і ўнук пісьменьніка Мікола Раманоўскі. Найбольш цікавае спавешчаньне зрабіла Кацярына Шашалевіч, якая распавяла пра катаваньні рэпрэсаванага клясыка ў Менскай турме.

## Сусьветная — па-беларуску

Калегія Міністэрства адукацыі зацьвердзіла канцэпцыю новага падручніка сусьветнай літаратуры для старэйшых клясаў школы. Ужо з новага навучальнага году сусьветная літаратура будзе выкладацца ў межах абноўленага курсу беларускай літаратуры, а значыць — на беларускай мове. Найбольш увагі ў гэтым курсе надаецца прыгожаму пісьменству нашых суседзяў, а найперш Украіны, якую будуць прадстаўляць 11 пісьменьнікаў.

## «Мастацтва» ў Інтэрнэце

Часопіс «Мастацтва» стварыў сваю электронную вэрсію ў сусьветным павучыньні на сэрвэры www.ibamedia.com. На тым самым сэрвэры зьмясьціла свой сайт Нацыянальная бібліятэка, але апошні яшчэ не працуе.

## На Сьвятога Патрыка

St. Patrick's Day!

17 сакавіка ў Лунінцы і ў менскім парку Горкага прайшлі маляўнічыя парады з нагоды Дня Сьвятога Патрыка. На наступны дзень у Доме дружбы адбылася прэзэнтацыя кнігі «Беларусь—Ірляндыя», якую выпусьціў Скарынаўскі цэнтар. У кнізе зьмешчана ўсё, што пісалася ў Беларусі пра Ірляндыю (у тым і нашаніўскія тэксты), і наадварот. Пачынаецца яна са звароту прэзыдэнта Ірляндыі пані Мэры МакЭліс. Вялікая дэлегацыя прадстаўнікоў дабрачынных арганізацыяў і дзеячоў культуры з Ірляндыі наведае таксама Слуцак, Гарадзею, Мазыр і Лунінец. Уклала кнігу і арганізавала прыезд гасьцёў Марыя Міцкевіч, унучка Якуба Коласа.

Юрась Барысевіч

## Армяне ў Полацку

13 сакавіка Полацак наведаў Сурэн Аруцюнян, былы першы сакратар кампартыі Арменіі, а цяпер пасол у Беларусі. Ён узяў удзел у адкрыцьці мастацкай выставы мастака Грыгора Даняляна ў полацкім музэі кнігадруку. Грыгор Данелян нарадзіўся ў 1950 годзе ў Тбілісі, але сёмы год жыве ў Менску. Сп.Данелян прыехаў у Полацак з падарункам — графікай па матывах паэзіі Хуана Рамона Хімэнэса. Мастак застаўся працаваць у горадзе на тыдзень.

Алесь Козік



сто твораў мастацтва XX стагодзьдзя

# Уладзімер Стальмашонак. ЯКУБ КОЛАС

На мяжы 50-х і 60-х гадоў у мастацтва ва ўсім сьвеце вяртаецца фігуратыўнасьць. Але ўжо іншая, жорстка-лінэарная, самаабмежаваная ў жывапісных сродках. Ізноў зьявілася цікавасьць да манумэнталізму, да спадчыны Ходлера, Лежэ й заходніх мастакоў 30-х гадоў. Што праўда, гэтая хваля нэаманумэнталізму мела дзясяткі нацыянальных адценьняў. У Штатах у гэтым рэчышчы працаваў, напрыклад Кент, якога любілі ў СССР за «мужны й моцны» стыль, а ў Францыі Бюфэ ствараў нешта зусім супрацьлеглае, у мэлянхалічных інтанацыях. Нэаманумэнталізм, пакліканы касмапалітызмам тых гадоў, пераломліваўся паўсюдна ў нацыянальныя школы. Танны пластык, новыя магчымасьці шкла й керамікі, алюміній і бэтон ператвараліся ў жывое самабытнае мастацтва.

Беларусь у той пэрыяд адчула моцны ўплыў літоўскага мастацтва. У Літве вяртаньне манумэнталізму прыпала на ранейшыя, 50-я гады. Тут гэта быў працяг магутных даваенных коўенскіх традыцыяў і спроба адрадзіць літоўскасьць у выяўленчым мастацтве. Жывапіс Савіцкаса, скульптура Мікенаса й вітражы Маркунаса спарадзілі новы стыль, які стаў узорам для пераймання і ў Беларусі. Напрыканцы 60-х хваля нэаманумэнталізму, абазванага ў СССР *суровым стылем*, дакацілася й да нас. Адначасова з ростам нацыянальнае сьведамасьці ў мастакоўскіх асяродках...

Паміж стваральнікаў новага нацыянальнага стылю ў жывапісе на сумежжы 60-х і 70-х самай адметнай фігураю стаў Уладзімер Стальмашонак. Дэбютаваўшы ў 1957 годзе палатном «Маладыя будаўнікі Менску», напісаным у духу клясычнага савецкага акадэмізму, ён парывае з гэтым самым акадэмізмам. Імпэтныя пошукі тэмаў і герояў, абавязкова эпічных, надзвычайных, непазьбежна зводзілі яго ад паўсядзённасьці. На шчасьце. Бо «бытавізацыя», якая панавала тады ў беларускім мастацтве, зьядала сэнс мастацкай дзейнасьці. Сацрэалізм праз тое дэградаваў на вачах. Цягам 60-х Стальмашонак у суаўтарстве з Гаўрылам Вашчанкам стварыў дзясятак манумэнтальных кампазыцыяў у разнастайных тэхніках: сграфіта й мазаікі ў Палацы піянэраў, пано са здробненай керамічнай пліткі ў Палацы камвольнага камбінату, сграфіта з прамалёўкаю ў Тэхналягічным інстытуце ды шмат яшчэ... Літоўскі ўплыў у іх відавочны. Але бракавала істотнага — нацыянальнага духу, які быў храбцінаю мастацтва Літвы.

І гэты дух пачынае шукаць Стальмашонак. Найперш у сюжэтах, пасьля ў формах. Узор таго этапу — партрэт Рыгора Шырмы. Сьведама імітуючы народнае мастацтва, Стальмашонак стварыў пярэстую дэкаратыўную кампазыцыю. Аднак стракацень арнамэнтаў і плоскаснасьць выявы пярэчаць аб'ёмнай мадэлёўцы партрэту Шырмы. Партрэт згубіўся. А выпісаны ордэн на грудзях і камэртон за поясам робяць гэтую рэч зусім наіўнаю. Імітацыі народнай эстэтыкі не атрымалася.

Працуючы пасьля над партрэтам Якуба Коласа, мастак пайшоў іншым шляхам. У гэтай карціне ён інтэрпрэтаваў традыцыю праваслаўнага жывапісу, скарыстаўшы з рэлігійнае сэмантыкі і ўмоўных кананічных прыёмаў іканапісу. Гэта апаваданьне пра гармонію ўсяго існага, з жыцьцядайным хараством зямлі і ахвярным пакутніцтвам яе сыноў. А сам пэрсанаж, паэт, патрактаваны як біблейскі прарок, які ўсё гэта вычувае. У гэтым вобразе няма ні патэтыкі, ані сэнтымэнтальнасьці. Прарок мусіць быць мудры, зацяты і суровы. У Стальмашонка гэтак і атрымалася.

Кампазыцыя палатна жорстка прывязаная да партрэту Коласа, які стаў і сэнсавым цэнтрам кампазыцыі, і яе мэханічным ядром, ад якога яна разыходзіцца. Па аналёгіі з абразом, дзе выява сьвятога ёсьць усім. Шырокі капялюш на галаве пэрсанажа ператвараецца ў кола німбу, плашч — у хітон, а сялянская сьвітка — у срэбную туніку. Шматкроць паўтораны матыў кола: ад цэнтру ўверх — да паўцыркульнага краю палатна і ўніз — амаль сымэтрычным паўколам плячэй. Кола, сымбаль нябёсаў, якое акрэсьлівае павольны й раўнамерны рух — галоўны матыў гэтай кампазыцыі. Паўколы пагоркаў і ральлі, спавітыя стужкамі дарогі, што сыходзіць за далягляд. Рэлігійная сэмантыка тут дазваляе ўзвысіць вобраз да мэтафізычнае ідэі — незямнога наканаваньня таго, што адбывалася й адбудзецца на гэтай зямлі. А пэрсанаж, візуальна ўзьвялічаны скарачэньнем пэрспэктывы за ім, нібы сам вырастае зь яе. Алюзія на псэўданім паэта. Колас, нібы сьвяты прарок, становіцца сымбалем. Невыпадкова самотная постаць яго ледзь разгорнутая ўправа. Паводле іканапіснае сэмантыкі, гэты рух азначае замілаваньне немаўляцем, што некалі ўратуе сьвет. Адсюль жа, з умоўнае мовы іканапісу, запазычаны шэраг фармальных прыёмаў — гіганцкі маштаб фігуры, нэўтральнае тло, лінэарнасьць, анатамічная ўмоўнасьць. Жорсткія, «вітражныя» абрысы асобных дэталяў робяць гэты твор дэкаратыўным, тым самым яшчэ больш падкрэсьліваючы ягоны сымбалізм.

Жывапісны лад карціны гэтаксама аскетычны, як і кампазыцыя. Ён пабудаваны на спалучэньнях адно брунатных, барвовых і вохрыстых таноў, толькі месцамі падсьвечаных белым і жоўтым. І ў гэтым абмежаваньні схаваная яшчэ адна мэтафара. Паводле хрысьціянскае каляровае сымболікі, белы ніжні й барвовы верхні ўборы сымбалізуюць пакутніцтва. Белы — чысьціня й цнатлівасьць. Барвовы — сымбаль мудрасьці й крыві палеглых ваяроў. Колеры трывожнае восені, калі зямля прыносіць свае ахвяры.

Стальмашонак дадаў да свайго жывапісу яшчэ й элемэнт дэкаратыўнага мастацтва — адмысловыя драўляныя шаты з двума салярнымі знакамі-абярэгамі абапал. Гэтыя шаты зь лёгкай геамэтрычнаю разьбою крыху заважаюць драматызм кампазыцыі, поўнай трывожнага пачуцьця.

Зь цягам часу гэты твор, шмат рэпрадукаваны й выстаўляны да розных юбілеяў і датаў, набрыняў сваёй уласнай памяцьцю. Гэта ўзор тагачасных мастацкіх пошукаў, стылістычных і ідэалягічных, у якіх і нараджаліся шэдэўры. І калі давядзецца ўзгадаць Беларусь канца 60-х і месца беларушчыны ў ёй, дык найперш згадаецца абраз Якуба Коласа, напісаны Ўладзімерам Стальмашонкам. У стылі нацыянальнага нэаманумэнталізму.

Сяргей Харэўскі

**Уладзімер Стальмашонак** (1928, Менск) жывапісец, манумэнталіст, вітражыст. Пэдагог. Скончыў Акадэмію мастацтваў у Ленінградзе ў 1957 годзе. З таго часу працаваў выкладчыкам у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. Заслужаны дзяяч мастацтваў БССР. Аўтар многіх манумэнтальных работ у жанры вітража, графіта, мазаікі.

## новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

М.Багдановіч. **Краю мой родны!**: Вершы, казкі. Для малодшага школьнага веку / Мастак М.Басалыга. — Менск: Юнацтва, 1999. — 190 с.: іл. — Наклад 5000 ас. ISBN 985-05-0024-7

*Зборнік складзены адмыслова для малодшых школяроў — у ім сабраныя беларускія й расейскія творы Максіма Багдановіча, успаміны бацькі паэта — Адама Багдановіча, Зоські Верас і Максіма Гарэцкага.*

Ю.Гарбінскі. **Беларускія рэлігійныя дзеячы XX ст.** Навукова-рэдакцыйная рада: У.Конан (адказны рэдактар) ды інш. — Менск — Мюнхэн: Беларускі кнігазбор, 1999. — 752 с.: іл. — Наклад 50 ас. ISBN 985-6318-65-3

*Фаліянт у вокладцы, падобнай як у кніг літаратурнае сэрыі нью-ёрскага Беларускага інстытуту навукі й мастацтва, рэпрэзэнтуе жыцьцяпісы беларускіх рэлігійных дзеячоў і ўспаміны пра іх. Кніга, апроч бібліяграфічных зьвестак, мае багаты ілюстрацыйны дадатак. Яна выйшла на глянцавай паперы малым накладам. Тэлефон Беларускага кнігазбору (017) 236-00-12.*

**Гісторыя беларускае літаратуры XX ст.**: У 4 т. Т.2 / Нацыянальная Акадэмія навук Беларусі. Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы. — Менск: Беларуская навука, 1999. — 903 с. — Наклад 1500 ас. ISBN 985-08-0179-4

*Працяг чатырохтомавых дасьледзінаў беларускае літаратуры нашага стагодзьдзя складаюць нарысы пра паэтаў, пісьменьнікаў і крытыкаў міжваеннага часу. Упершыню ў акадэмічнае выданьне трапілі некалі забароненыя імёны.*

Кантакты і дыялёгі: Бюлетэнь Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. № 1—2, 2000. — Менск: Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, 2000. — 64 с. — Наклад 299 ас.

*Як і заўжды, бюлетэнь рэпрэзэнтуе рэцэнзіі на апошнія беларусазнаўчыя выданьні, працягвае сэрыю «Беларусы ў сьвеце» зь біяграфіямі дзеячоў беларускай эміграцыі, падае падрабязны пералік выдаваных у Беларусі кніг пра іншыя краіны й замежных выданьняў пра Беларусь.*

**Клёк 2.** № 1, 2000. Культурологический альманах авторов. — Менск: BY-WAY Group, 2000. — 64 с. — Наклад «ограничен количеством проницательных читателей».

*Гэты самвыдавецкі праект ёсьць працягам часапіса «Музыкальный журнал».*

**Кур'ер**: часапіс. № 1, сакавік 2000. — Менск, 2000. — 48 с., іл. — Наклад 5000 ас.

*«Кур'ер» хоча стаць беларускім* Newsweek*-ам. Рэдагуе яго Ігар Гермянчук. Выдатная паліграфія (хоць і чорна-белы друк усярэдзіне), каляровая вокладка. Асноўныя тэмы: ці будуць у Беларусі перамены? ці варта апазыцыі ўдзельнічаць у выбарах? хто ў шэрагах апазыцыі здольны споўніць ролю агульнанацыянальнага лідэра? палітычны партрэт міністра нутраных справаў Юр'я Сівакова; што думаюць палякі пра беларусаў? чым небясьпечны чарнобыльскі саркафаг? Блізу 60% мат'ар'ялаў друкуецца па-расейску. Неўзабаве будзе ў продажу ў шапіках.*

А.Міцкевіч. **Дзяды** / У 2-х т. Т.1–2/ Агульная рэдакцыя І.Кур'ян; Пераклад у беларускую мову С.Мінскевіча; Камэнтар З.Стэфаноўскай, С.Мінскевіча. — Менск: Мэдысонт, 1999. — 264 с. — Наклад 300 ас. ISBN 985-6530-07-5

*Упершыню цалкам па-беларуску выйшлі міцкевічаўскія «Дзяды». Вартасьць гэтага выданьня ў паралельным зьмяшчэньні перакладу й польскага арыгіналу. Наконт набыцьця трэба зьвяртацца на тэл. (017) 227-78-92, цана 5 у.а.*

# САБАКІ ДЫ ХРАНОПЫ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Шніпаўскія сабакі ды гражданы ўварваліся ў беларускую літаратуру з гучным брэхам і пабудзілі чытачоў («Супакойце граждана Шніпа...» — «Не чапайце граждана Шніпа...» — «Пайшоў тады сабака ў ЗАГС і зьмяніў сваё прозьвішча на Саграждан...»).

Асабіста мне яны нагадваюць картасараўскіх хранапаў і фамаў. Памятаеце? «Фамы пабудавалі завод па вытворчасьці пажарнай кішкі і нанялі процьму хранопаў для яе скручваньня і складаваньня. Як толькі хранопы аказаліся на заводзе, іх ахапіла радасьць. Кішка выпрацоўвалася чырвоная, сіняя, жоўтая ды фіялетавая. Яна была празрыстая, так што можна было бачыць, як усярэдзіне цячэ вада, розныя бурбалкі, а дзе-калі і якое паўзвар'яцелае насякомае. Хранопы радасна ўскрычалі й пачалі скакаць стаяк ды каравяк замест таго, каб працаваць. Фамы засердавалі і зараз жа прымянілі пункты 21, 22 і 23 унутранага раскладу з мэтай не дапусціць падобных актаў у будучыні»...

Ня думаю, што тут ідзецца пра нейкае сьвядомае або несьвядомае запазычваньне. Проста, мабыць, у пэўны момант пісьменьнік (жыве ён у Аргентыне ці ў Беларусі) пачынае вострa бачыць, што сьвет падзелены на хранопаў, фамаў і надзеек, на сабак і гражданаў, на хохлікаў і ялечак-балетніц... І гэта радуе чытачоў. Бо і яны, аказваецца, невыразна падазравалі штосьці падобнае. І нават былі амаль упэўненыя. І таму, адгарнуўшы газэтны аркуш, адразу пазналі сябе ў сабаку, што аб'еўся буракоў і цяпер ляжыць у баразьне, а таксама — праўды няма куды падзецi — у Граждане, якому карціць прысьвяціць верш таму, хто аб'еўся...

Рэальны сьвет. Рэалізм літаратуры, як бачна, можа быць розным. Сымпатычна, што рэалізм беларускай літаратуры пачынае адсьвечваць рознымі водблiскамі. Іранічным. Магічным. Мадэрновым. Сюд-туд, а знаходзіць чытач раскошу добрага чытаньня — не заўсёды там, дзе шукае.



Прыкладам, амаль перастала друкаваць літаратуру «легенда беларускай прэсы» (акрамя безумоўнага посьпеху Віктара Шніпа неяк нічога і ня згадваецца), затое трымае ўзровень «адзіная штодзённая беларускамоўная» «Звязда». Упартасьць, зь якой яна друкуе апавяданьні ў рамках свайго конкурсу, дае плён: тым і тчэцца зрэб'е літаратурнага працэсу. Нядаўна надрукаваны там твор Віктара Казька «Бунт незапатрабаванага праху» — безумоўна, сапраўдная літаратура, якая стае нагодай для настрою і сьвежых думак — бо нечаканая, бо бяз штампаў, бо шмат нагадвае...

Прыкладам, ARCHE можна прабачыць інтэлектуальныя «завароты», калі падумаеш, што менавіта ён адкрыў для чытачоў Еву Вежнавец ды Андрэя Хадановіча.

Прыкладам, калі адкрываеш украінскую газэту «Самостійна Україна» і бачыш там «Коли б Лукашенком був я...» Юрася Барысевіча...

Словам, у такіх акалічнасьцях яшчэ можна заставацца чытачом. Чытач беларускі як гатунак або, пабатанічнаму, «культывар», ня вымрэ пакуль. Дзякуй за гэта беларускім пісьменьнікам, якія, падобна, таксама ня вымруць пакуль.

Вось чаму з сапраўдным задавальненьнем прашу дазволу павіншаваць Віктара Шніпа з днём нараджэньня і пажадаць яму гумору і пашырэньня яго заалягічных адшуканьняў. Ад імя шырокіх масаў прыхільнікаў жывёл і літаратуры.

**Натальля Бабіна**

# ЛЕЎ САПЕГА ВАЧЫМА ЭДВАРДА РАДЗІНСКАГА

**Радзинский Э. Кровь и призраки русской Смуты. Москва. «Вагриус». 1999. 368 С., наклад 10000, ISBN 5-7027-0928-4**

Славу й шырокую вядомасьць расейскаму гісторыку-архівісту і драматургу Эдварду Радзінскаму, расейскаму Стэфану Цвэйгу, прынесла тэлевізія. Жвавасьць ацэнак, майстэрства апавядальніка й падкрэсьлены псыхалягізм аповеду — вось што вабіць гледачоў і чытачоў ягоных кніжак.

Нягледзячы на тое, што прыметнік «беларускае» ў новай ягонай кнізе ўжываецца толькі раз, цікава будзе азнаёміцца зь ёй ужо таму, што на яе старонках дзейнічаюць такія постаці нашае мінуўшчыны, як Сьцяпан Батура, Жыгімонт Ваза, Леў Сапега, Алена Глінская. Зразумела, гэтыя пэрсанажы не маглі стаць галоўнымі героямі кніжкі. Э.Радзінскаму больш даспадобы такія добра вядомыя вобразы расейскай гісторыі, як Іван Жахлівы, Сталін ці, у гэтым выпадку, таямніца паходжаньня Лжэзьмітроў. Тым ня менш, аўтар заўсёды інтрыгуе непрадказальнасьцю тлумачэньня той ці іншай асобы, канцэнтруе ўвагу на асобных дэталях, прыкмячае нейкія раней не заўважаныя дробязі, што дае яму магчымасьць пабудаваць уласную схему, адметную.

Вось, напрыклад, якім бачыцца Э.Радзінскаму хросны бацька Смутнага часу — Леў Сапега:

«З новым каралём Жыгімонтам Трэцім Гадунову ўдалося заключыць выгадны мір. Польскі пасланец Леў Сапега, канцлер літоўскі, пасьля доўгіх спрэчак падпісаў дваццацігадовую дамову аб замірэньні з Масковіяй». «Пад час заключэньня міру й быў пакладзены пачатак таму, што у далейшым стане прычынай гібелі Барыса. Узьненавідзеўшы Гадунова, які перагуляў яго па ўсіх артыкулах мірнай дамовы, Сапега сустрэўся ў Маскве з рэшткамі партыі радавітай маскоўскай знаці. У гэтых размовах, верагодна, і нарадзілася небясьпечная ідэя».

«Канфідэнцыйныя адносіны з Сапегам у князёў склаліся даўно, тады, калі ён яшчэ бываў у Маскве ў часы Гадунова. Так што яны не баяліся павядамляць яму сьмяротна небясьпечныя праекты». «Рэч Паспалітая была падрыхтаваная да прыезду Атрэп'ева канцлерам Львом Сапегам, зь якім баяры ўвайшлі ў дачыненьні яшчэ ў бытнасьць яго ў Маскве. Менавіта таму, згодна з польскімі крыніцамі, пасьля наведваньня Масквы мудры канцлер выклаў каралю надзвычайны плян знішчэньня небясьпечнай Русі рукамі самазванцаў».

Не аспрэчваю цалкам высноваў, якія робіць Э.Радзінскі, але выкладзенае аўтарам бачаньне праблемы патрабуе камэнтару.

З ініцыятывай «вечнага міру» выступіў менавіта Леў Сапега, хаця ідэя была старая й зь ёй насіліся вельмі даўно (нават да гэтай пары яна не дае спакою некаторым прыхільнікам славянскага зьвязу). Мэтай Сапегі было падпісаць ня толькі трывалы мір, але зь цягам часу займець адзінага гаспадара для трох дзяржаваў: Польскай кароны, ВКЛ і Масковіі. Такім чынам стварыць самы моцны зьвяз у Эўропе, які мог ня толькі супрацьдзейнічаць асманскай агрэсіі, але заняў бы дамінуючае становішча ў Старым сьвеце. Але замест «вечнага міру» быў падпісаны так бы мовіць, мір сабачы — на 22 гады.

У беларускай літаратуры нат такі мір падаецца як Сапегава перамога, бо на той момант Жыгімонт Ваза, спадчынны кароль Швэцыі, быў пазбаўлены кароны на радзіме сваім дзядзькам. Таму своечасовае заключэньне Сапегам міру ратавала Рэч Паспалітую ад пэрспэктывы вайны на два франты. Але Сапега сапраўды застаўся вельмі незадаволены, бо ні «вечнага міру», ні славянскага дыктату ў Эўропе не атрымалася. А пра тое, што Сапега сапраўды гэтага й хацеў, сьведчыць шмат што. Спадзяваньні на сапежынскае пасольства былі вельмі вялікія. Нездарма пасольства ўзначаліў пэрсанальна вялікі канцлер — для дыпляматычнай практыкі тых часоў гэта вынятак, а ня правіла.

Колькасны склад пасольства сьведчыць пра грунтоўную падрыхтоўку «вялікага пасольства». Апроч «штабу», у які ўваходзілі князь Друцкі-Сакалінскі, віцебскі ваявода Іван Сапега, усьвяцкі староста Андрэй Варапай, варшаўскі кашталян С.Варшавецкі, Я.Пасак, П.Дунін і іншыя, адной толькі аховы ехала больш за тысячу чалавек.

Аднак два найвыдатнейшыя розумы свайго часу, Леў Сапега й Барыс Гадуноў, не змаглі паразумецца. Кожны марыў найперш пра веліч і моц уласнай краіны. Б.Гадунову мроілася, што ён дасягнуў большага: паставіў на чале дзяржавы новую «адукаваную» дынастыю, даў мір падначаленым. І ня ведаў, што ягоны лёс і лёс ягонай сям'і ўжо трымае ў сваіх руках яснавяльможны пан Сапега.

Мае рацыю Э.Радзінскі, калі сьцьвярджае, што дамоўленасьць аб сумесных дзеяньнях з маскоўскім баярствам супраць Гадунова была дасягнутая, калі стала зразумелая марнасьць перамоваў. Але сама ідэя інтрыгі зарадзілася раней, бо сярод чальцоў пасольства ўжо знаходзіўся й той, хто хутка будзе насіць тытул цара Дзімітрыя Іванавіча.

На вялікі жаль для Масковіі, Сапега быў кніжнікам. У 1591 годзе да яго трапляе сапраўдны рарытэт, толькі што выдадзеная ў Лёндане праца Джыльса Флетчэра «Аб дзяржаве Расейскай». Ангельскі правазнаўца й пасол у Масковіі на старонках сваёй працы пісаў пра выраджэньне царскага роду ў Расеі — «які, як бачыцца, хутка зьнікне са сьмерцю асоб, зараз шчэ жывых... Гэты безнадзейны стан рэчаў унутры дзяржавы прымушае народ... чакаць умяшальніцтва якой-небудзь іншаземнай дзяржавы, якое, па меркаваньні яго, адно толькі дасьць збавеньне ад цяжкага ярма гэткага дэспатычнага праўленьня...»

Тутака хіба не хапала толькі дэталяў. Сапега хутка іх дадаў.

Першыя спробы пачаць інтрыгу адносяцца да 1598 г., калі сканаў апошні сын Івана Жахлівага — Фёдар. Менавіта ў 1598 г. ліцьвінскія віжы запісваюць зьвесткі пра тое, што знойдзены лісты ад Дзімітрыя Іванавіча.

Чуткі аб уратаваньні «добрага цара» ў народзе атрымалі самае шырокае распаўсюджваньне. Гісторыі вядомыя выканаўцы гэтага — браты Хрыпуновы. Пасьпяхова выканаўшы загад Сапегі, яны зьбеглі да свайго патрона ў ВКЛ. Сам Сапега быў занадта разумны, каб дазволіць некаму падлавіць сябе на брудных справах. У знак добрасуседзкіх зносінаў ён нават накіроўвае ліст Б.Гадунову пра тое, што ў межах Польскай кароны зьявіўся самазванец і нават знайшоў сымпатыі старога інтрыгана Юр'я Мнішка. Рэпутацыя гэтага чалавека была падмочана шчэ пасьля сьмерці караля Жыгімонта Аўгуста, таму лепшага кандыдата на ролю галавы змовы цяжка было знайсьці. Трэба пагадзіцца з Радзінскім, што ў вачах Сапегі Ілжэзьміцер Першы быў абы-чым, самазванцам, але ён павінен быў стаць у руках канцлера той зброяй, з дапамогай якой можна было дасягнуць мэты — злучыць дзьве краіны пад уладай Уладзіслава Вазы. Але свае карты канцлер раскрые толькі ў далёкім 1610 годзе. А ўсе самазванцы, Першы і Другі, больш вядомы як шклоўскі самазванец, ці Ілжэіван Зьмітравіч, Ян Фаўстын Луба, былі толькі пешкамі ў вялікай гульні пад назовам СМУТА, яую прыдумаў і ажыцьцявіў яснавяльможны пан Сапега.

Трактоўка Э.Радзінскага, як мы бачым, моцна адрозьніваецца ад разуменьня сытуацыі І.Саверчанкам ды В.Чаропкам, якія спрабавалі абяліць Сапегу ад абвінавачаньняў у справе, вырашэньню якой ён аддаў большую частку свайго жыцьця.

**Г.Туровіч**

## Віктар ШНІП



***

Я вучыўся ў Расеі ў савецкай Маскве  
Піць віно і любіць гэты сьвет за сьвятло,  
Што заплӑўлена ў росах, блішчыць на траве,  
Як у памяці тое, што ўчора было.

Я хадзіў па Маскве й я ня бачыў Масквы  
Той, што ў кніжках вялікіх вялікай была.  
Я ішоў у царкву і выходзіў з царквы,  
Як выходзіць цяпло зь веснавога сьвятла.

І шумеў, як кагал, Беларускі вакзал,  
І хацелася мне, як напіцца, дамоў.  
І мне рускі паэт пра Расею казаў  
І глядзеў на мяне з-пад манголаўскіх броў.

Той Расеі даўно ўжо на сьвеце няма,  
Як і той Беларусі няма ўжо даўно.  
І з Расеі да нас зноў прыходзіць зіма,  
Мы ў Расею вязём свой табак і віно.

***

Ты ніколі ня будзеш героем,  
Як ня будзе сабака ваўком.  
Ты памрэш са сваім гемароем  
За пісьмовым, як нары, сталом.  
І ня будуць стаяць піянэры  
Над труною тваёй на дварэ.  
А зьбяруць з тваёй хаты паперы  
І здадуць іх усе ў КГБ.  
Але ж гэта ўсё будзе ня хутка.  
І табе сёньня хочацца жраць.  
Ды пажэрла ўсё тут прастытутка  
І зьліняла, каб не спакушаць.  
Ды ўсё ж прыйдзе вялікі начальнік,  
Можа, заўтра, а можа — праз год.  
І падорыць табе ён гарбатнік,  
Хоць ты любіш вішнёвы кампот.  
І ўжо ты са сваім гемароем  
Будзеш сёрбаць гарбату штодня.  
Ды ня станеш ніколі героем,  
Як ніколі ня буду і я.

### Баляда лёсу

Можа й заўтра, мо праз год, праз дзесяць,  
Ды ўсё роўна ўсё ж цябе павесяць...  
Сумна гэта ўсё, як на пажары,  
Дзе ў суседнім доме на гітары  
Хтось іграе і віно смакуе  
І жанчыну, як пажар, цалуе.  
І нічога не зьмяніць нікому.  
Можна сёньня не прыйсьці дадому,  
А пайсьці і сесьці ў электрычку,  
Падчапіць, як насмарк, маладзічку  
І паехаць зь ёю на прыроду  
Падалей ад сьмерці і народу.  
Можна ўсё, але праз год, праз дзесяць  
Усё роўна ўсё ж цябе павесяць.  
І вісець ты будзеш на асіне.  
Міма будзе ехаць на машыне  
Чалавек, які цяпер гаруе  
І тайгу сыбірскую пілуе,  
Бо ўсё роўна ці праз год, праз дзесяць,  
Не яго тут, а цябе павесяць...  
Сумна гэта ўсё, як на пажары,  
Тлумна гэта ўсё, як на базары,  
І нічога не зьмяніць нікому,  
Як ня легчы мне ў труну жывому...

***

Іосіфа Бродскага томік чытаю,  
Нібыта сяджу зь ім за кружкаю чаю  
У белай Расеі, якой я ня знаю.  
І дым цыгарэтны тут дымам Айчыны,  
І шыбіны ў вокнах, нібыта ільдзіны,  
Сонца праз іх, нібы кроў, прастурае,  
Нібы за сьцяною на скрыпцы грае  
Савецкі габрэй, што Айчыны ня знае...  
Мы розныя людзі, але мы пад Богам,  
Як подпісы чорныя пад нэкралёгам,  
Як Бродскага вершы пад вокладкай кнігі  
І як пад зямлёю нясьпешнасьць Нямігі...

### Баляда эмігранта

Ён быў эмігрантам з адвечных балот,  
Дзе ў шчасьці жыве невядомы народ.  
І ў Санкт-Пецярбургу ля весьняй Нявы  
З табой гаварыў ён, як з панняй, на «вы».  
І быў ён самотны, што ўцёк ад сахі,  
Нібыта манах, што забыўся грахі.  
І быў ён прыгожы, нібы Апалён,  
Нібы ў дрогкім келіху адэкалён.  
І ты ўпадабала, як сьмерць, чужака,  
Як птушка на дрэве сухім чарвяка,  
І ён анічога тут не зразумеў,  
Бо жыць, як трава на асфальце, хацеў  
І сьледам пайшоў за табой, як герой,  
Па вуліцы цёмнай начною парой...  
Ён быў эмігрантам з адвечных балот.  
Цяпер ён вялікі, нібы кашалот,  
Па весьняй і ціхай, як вечар, Няве  
У Фінскі заліў без бацінак плыве.

# З вышшай адукацыяй, а лічыць ня ўмеюць

Пішу я Вам зь вёскі Заказанка, якую ўсе знаюць. А вось я, калі вашы газэты чытаю, нічога не пайму, што ў вашым Менску робіцца. Народ бунтуе ці не бунтуе? А калі бунтуе, дык хто яго бунтуе?

Вось скажыце мне, колькі народу было на Маршы Свабоды ў тую сераду? Уключаю расейскі канал, кажуць 25 тысяч, і нейкі з РНЕ пабіў карэспандэнта Каўпакова за тое, што НТВ кепска хваліць перамогі расейскага войска ў Чачэніі. Уключаю беларускі канал, кажуць 3,5 тысячы, і ўсе чыста п'яныя, у наркатычным ап'яненьні, падкупленыя Амэрыкай за 108 мільёнаў даляраў, а Каўпакова пабіў засланец Шарэцкага для стварэньня карціны для спонсараў. Уключаю другі расейскі канал, кажуць 10 тысячаў было, і Каўпакова пабіў беларускі дэмакрат у знак пратэсту супраць чачэнскай вайны. Уключаю БТ, Чыкін кажа: было 6 тысячаў, аж тралейбусы праехаць не маглі, так мала народу было.

Ну, думаю, у тэлевізары сьпяшаюцца хутчэй-хутчэй, разважаць ім няма калі, у газэтах усю праўду прачытаю. Прыходзіць мне «Звязда». Чытаю першую старонку, БелТА піша: хацелі сабраць 150 тысячаў, а сабралі ў 100 разоў меней. Гэта, калі мяне правільна ў польскіх трох клясах вучылі, значыць, што было на Маршы 1,5 тысячы. Чытаю другую старонку, Юрась Ляшкевіч піша: выступіў на мітынгу Лябедзька, сказаў, што нас тут 50 тысячаў. А адзін міліцыянт сказаў, што, «па прыблізных падліках, было людзей у шэсьці ня менш за 20 тысячаў. Аднак пры такой колькасьці людзей даць канкрэтную лічбу вельмі складана. Але кіраўнік прэс-службы УУС Менску паведаміла нам, што паводле апэратыўных зьвестак у акцыі ўдзельнічалі тры з паловай тысячы чалавек».

Добра, гэта газэта дзяржаўная, у іх там ня ўсё ў парадках, пачытаю я незалежныя. Паехаў у Берасьць, купіў сабодную прэсу. Чытаю «Народную Волю»: «По главному проспекту белорусской столицы, носящего имя славного сына белорусского народа Франциска Скорины, под бело-красно-белыми знаменами и транспарантами двигалось 25—30 тысяч человек» (я ня вельмі пайму, што тутака напісана, але ясна — 25—30). Разгортваю «Деловую», чытаю: «Чтобы отпраздновать День Конституции, на улицы Минска вышло около пяти тысяч человек».

Не, я панімаю, вам даць канкрэтную лічбу складана і ўсё такое. Але ж совесьць то трэба мець. Гэта ж дурны скажа, паўтары тысячы йдзе па вуліцы ці пяцьдзясят! Гэта ж, знаеце, калі ўсіх, хто жыве ў сяле Страдзічы выставіць, пойдзе 1,5 тысячы, а калі ўсіх, хто жыве ў горадзе Кобрыні — 50. А калі тыя так званыя міліцыянеры, дзелавыя журналісты і іншыя Чыкіны назахоплівалі сабе пасадаў, дзе, мусіць, і па сто, і па дзьвесьце мільёнаў грошай у месяц палучаюць, а яны напраўдзе такія умсьцьвенна адсталыя, што трох ад пяцідзесяці адрозьніць ня могуць, дык такіх круцялёў трэба біць, каб на карку не сядзелі. І ня толькі іх біць, але й тых, хто іх у інстытуты такіх бязмозглых прыймаў — бо няйнакш добра ў руку далі, каб прадзельці. А як інакш такія агімолкі маглі іспыты здаць?

Вы там усе з вышшым абразаваньнем, мы вас вучылі, гарбаціліся ўсё жыцьцё над бульбай і буракамі, у інстытутах вас трымалі, кармілі, паілі, а вы, выходзіць, лічыць не навучыліся! Дык мы бяз вашых унівэрсытэтаў і інтэрнэтаў за тры клясы польскае школы лічыць навучыліся! Эх, узяць бы ды зьдзерці з вас тыя грошы, што памарнавалі на вашу круцельскую дурную вучобу, дык хоць на дактароў на старыя гады было б.

А далібог, вазьму калок, прыеду ў Менск на Дзень Волі! Тады навучу вас і шчытаць, і пісаць!

**Іван Залупа з Заказанкі**



Фота IREX-ProMedia

## паштовая скрынка

**Яўгену С. зь Пінску.** *Ваш ліст пра Новы год трапіў да нас у лютым. Чытачам гэта было б ужо не цікава. А апошні Ваш ліст мы скарыстаем напярэдадні наступнага Эўрапейскага спатканьня хрысьціянскай моладзі «Тэзэ». Не забудзьцеся толькі наперад нас паінфармаваць, калі і дзе яно адбудзецца і як туды дабірацца.*

**Андрыку П. зь Віцебску.** *Тэлефоны Віцебскага бюро праваабарончага цэнтру «Вясна-96» 36-18-33, 24-18-57 (Міхась Паўлаў), 37-62-37 (Кастусь Смолікаў), Віцебскага прадстаўніцтва Беларускага Гельсынскага Камітэту 2-96-96 і 2-11-39 (Юры Лаўрэнаў).*

**Юрасю С. зь Віцебску.** *Навіны цікавыя, але даўнія. Вы ў сярэдзіне сакавіка пішаце нам пра Юрася З., якога зславілі за маляваньнем патрыятычных графіці. Дык ён мабыць ужо пасьпеў адседзець сваю кару за гэты месяц і нешта новае зрабіць. Старайцеся паведамляць нам пра падзеі як мага хутчэй — найлепш электроннаю поштаю. Але таксама пішыце як мага больш канкрэтна. Замест «пары надпісаў патрыятычнага зьместу на агароджы алейнага заводу» лепш было б даць знаць, які дакладна надпіс зрабіў хлопец — усім цікава.*

**Кастусю Т.** *зь Менску. Дзякуй за парады, мы гэта маем на ўвазе. Калі нас будзе чытаць болей народу, тады зможам павялічыць наклад і колькасьць газэтных палосаў, а там і болей друкаваць літаратуры ды іншых цікавых рэчаў.*

**Міхасю Б.** *з Магілёва. Артыкул пра Расею для нас завялікі. Скараціце яго, калі ласка.*

## прыватныя абвесткі

**вітаньні**

Віншуем старшыню Магілёўскага Маладога Фронту **Андруся Кавалёва** з нараджэньнем сына! Так трымаць! Маладафронтаўцы

Прывітаньне **Усебеларускай Лучнасьці Сонейкаў** ад Асацыяцыі Восеньскіх Вожыкаў. Вожык

**жытло**

**Мяняю 1-пак. кватэру ў Віцебску** (19/ 37 кв.м, 4/5 пав. дому) на Менск ці іншыя гарады. Алене, а/с 39, 210001, Віцебск-1

**Мяняю хату ў Берасьці**, 35/57 кв.м, 3 пакоі, газ, студня — на 1-пак. кватэру ў Менску. Маша, а/с 34, 210015, Віцебск-15

**ідэі**

Вінцусь! **Запрашай на 25 сакавіка «Алмаз»** — лепшую абарону ад амону!

**У аднаго сабакі** завяліся мухі у носе, а Граждан праз шэсьць гадоў як бы мкнецца шкрэбці патыліцу. Чытач з Мазыра

**У аднаго сабакі** розум зьбегся да кропкі, а Граждан вярзюкае, што гэта ягоны пункт погляду. Чытач з Мазыра

**Dzie dabrom** jość usialakaje zło, dzie na dziesiać zapaviedzinaŭ mieniej i dzie čakaje nas tolki jarmo? Hieranim Celius

**I maleńki** słoŭničak dašć adpaviednuju svajoj vieličyni karyść. Janka Stankievič

**I Załataja** arda była «Союзом». A.Bortniak

**Besser allein**, als in böser Gemein. Lepš adzin, čym u drennym «sojuzie». Hieranim Celius

**Я кажу вам:** любіце ворагаў вашых, блаславаляйце тых, хто праклінае і ненавідзіць вас, маліцеся за тых, хто крыўдзіць і гоніць вас. І так будзеце дасканалымі, як дасканалы Айцец ваш нябесны. Эвангельле ад Мацея, гл.5

**Хрысьціяне!** Абуджэньне пачынаецца! Будзьма ж еднымі ў імя Ісуса Хрыста — пад Ягоным бел-чырвона-белым сьцягам!

**Няма ніякіх багоў**, акрамя Госпада нашага — Ісуса! Яўген

**Даў нам Бог** ня духа страху, але сілы, любові і мудрасьці. 2 Цім. 1:7

**Родныя мае нацыяналісты!** Беларушчына, беларуская форма пустая без хрысьціянскага зьместу! Нацыянальная ідэя

**Няхай жыве** вольная Ічкерыя! Гонар чачэнскім патрыётам! Божа, дапамажы шматпакутнаму народу! Антось Зуйніцкі

**22 сакавіка** пастаўце сьвечку за забітага брата нашага Кастуся Каліноўскага. Вечная слава героям!

**Жыве Чачэнія, жыве Беларусь!** Слава вольнаму Народу. Ганьба Расеі! Янак Васілевіч

**Людцы добрыя!** Гэта ж чым 3 гады займалася у нас АБСЭ, каб зараз «г-жа Бенита Ферреро-Валдер» казала, што «на данный момент в Беларуси проходит сложный процесс трансформации страны в демократическую структуру» (?!)

**кантакты**

Дзеля каханьня і шлюбу **шукаю шчырую беларусачку** (17-24 гадоў). Мянчук. Менск-64, а/с 192

Пазнаёмлюся **для шлюбу са сьвядомай добрай дзяўчынай.** Мне 27 гадоў, вышэйшая адукацыя, бяз шкодных звычак. 210021, Віцебск-21, а/с 21, Алесь

**Ці ёсьць на Гарадзеншчыне** зьвяз «Край»? Жадаю наладзіць кантакты. 231306, Бярозаўка, Школьная, 12 а

**Малады хлапец** шукае кантактаў са сьвядомымі беларусамі са Жлобіна. 247210, Жлобін, 17-14-7

**Спадару Мітрусю Баброўцу**, Вас шукае газэта «ННІст» і асабіста Алесь Барбікаў. Адгукніцеся лістом ці праз e-mail!

**Алесю з Палесься.** Дэмакратыі няма без плюралізму. Пашукай лепш ворагаў у самім сабе. «Gardarika»

**Адзінокі мужчына** 35 год, в/а, журналіст, бяз ш/з пазнаёміцца з разумным, нацыянальна сьвядомым хлопцам для сур'ёзных адносінаў. Пісаць: 210027, Віцебск-27, а/с 24

**Сымпатычны мужчына** з задавальненьнем пазнаёміцца з актыўнымі вайскоўцамі ці міліцыянтамі. Тайну гарантую. А/с 78, 220141, Менск

**кашуля**

**Кашулю-вышыванку** (на хлопца) куплю. Т.: 274-87-79

**кнігі, пэрыёдыкі**

**Куплю слоўнікі** В.Ластоўскага, М.Байкова і С.Некрашэвіча, граматыку Б.Тарашкевіча. Т.: 258-43-54

Куплю **«Энцыкляпэдыю Гісторыі Беларусі»** (т.3), **«Энцыкляпэдыю прыроды Беларусі»**, **«Энцыкляпэдыю літаратуры і мастацтва Беларусі»**. Т.283-27-34, Фёдар

Pieršy muzyčny **časopis XXI stahodździa** «KLĖK2». Nie tarmazi! A/c 68, 220035, Менск

**Бясплатна вышлем Біблію**, Дзіцячую Біблію, хрысьціянскія касэты. Капэрта, купон б/а. 210021, Віцебск-21, а/с 21

Газэты **«Радавая Беларусь»** і **«Наша ніва ісьцінная»** можна заўжды набыць у сядзібе БНФ «Адраджэньне» (Варвашэні, 8) ці ў прыватных распаўсюднікаў на акцыях Вясны-2000

**«Наша ніва ісьцінная»** у Інтэрнэце — жоўтая газэта ўва ўсясьветнай павуціне: www.geocities.com/nnist

Краіна на ростанях — шукайма шляхоў разам! **Газэта «Gardarika»** — аналітычнасьць, грунтоўнасьць, living:розn набаковасьць. У спрэчках нараджаецца ісьціна. А/с 188, 220082, Менск

**«Радавая Беларусь»** — гэта «Советская Белоруссия» наадварот. Чытайце й набывайце першую газэту для нац.-дэмаў,-радыкалаў і -сацыялістаў новага часу. Ад Вас: 50 р.+капэрта. А/с 169, 220030, Менск

Вельмі **танна прадаю цудоўныя і вельмі патрэбныя ўсім кнігі і часопісы** з хатняй бібліятэкі, у добрым стане, на розныя тэмы. Пазначце тэматыку, укладзіце капэрту — вышлю каталёг. 210001, Віцебск-1, а/с 39, Іне

**ПОСТ № 1** — выданьне з Новага Полацку. Замова: (02144) 5-41-30, andyxx@aport.ru

Набуду выданьні **«Соты»**, **«Nihil»** — усе нумары. Т. (02144)5-41-30

**Набуду пляны-схемы беларускіх местаў** (Менск не прапаноўваць). Т.: (01776) 51-3-13

**мова**

Дапамагу **вывучыць хутка замежную мову.** А/с 109, 223710, Салігорск

**музыка, відэа**

На будні на Румянцава 13 (ТБМ) з 11-й да 19-й працуе **выстава беларускіх кніжак, аўдыё- і відэакасэтаў**. Усё можна набыць! Т. 234-93-71, Сяргей Гуркоў

**пашпарт**

**Згублены пашпарт грамадзяніна N.R.M.** на імя Алены, Берасьцейская прапіска. Таму, хто верне, шчыра падзякую. Адрас у рэдакцыі

**праца**

**Высокааплатная праца** для усіх, незалежна ад месца жыхарства. Без навучаньня і папярэдняй аплаты. Капэрта, купон б/а. 210021, Віцебск-21, а/с 21

Дапамагу **распачаць уласную справу** ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 300 у.а. Даступна ўсім! Ад Вас капэрта са зв/а + купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

**ГАЗЭТА ПРЫМАЕ ТАКСАМА АБВЕСТКІ БОЛЬШЫМ ШРЫФТАМ ЗА НЕВЯЛІКУЮ ПЛАТУ**

- *да 20 словаў — **78** руб.,*
- *звыш 20 словаў — **96** руб.;*
- *па-мастацку афармленая аб'ява – **45** руб. за 1 кв. см;*
- *па-мастацку афармленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету — ад **63** руб. за 1 кв. см.*

*За аб'яву пра сямейныя падзеі — зьніжка.*

Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў мусяць аплочвацца паводле рэклямных расцэнкаў для камэрцыйных аб'яваў

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. ААТ «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*

На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*




*Дык стойце ж у свабодзе, якую даў нам Хрыстос (Галят. 5.1).*
**БЕЛАРУСКАЯ ЭВАНГЕЛЬСКАЯ ЦАРКВА**
*штонядзелю ў Менску а 17-й гадзіне: вул. Любімава 21-56, тэл.: 270-89-87, 279-71-31; штонядзелю ў Асіповічах аб 11-й гадзіне: вул. Ленінская 40, тэл.: 20-840.*

**Радасьць ёсьць асаблівай мудрасьцю, — так сказаў Хрыстос. Будзьма Радаснымі! З Дабравешчаньнем, Літва!**
*Ганна Сьцепулёнак*

**НАША НІВА КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________

«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Сакратар-рэфэрэнт Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук.
**Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.**
**Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.**
© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3801. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 23:17, 19.03.2000. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 1388. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.